# У наступным нумары:

## Эканоміка: “крывая абыякавасьці”

Як мы робім свой выбар

## Гэты яскравы й фантастычны батык

## Дылі, ногі, ножкі...




# У гэтым нумары:







## Сьвет Абітурыента

Вынікі эксклюзіўнага сацыялягічнага апытаньня

## “Грамадзтва шукальнікаў хабару”

Чаму дзяржава ўмешваецца ў рынкавыя адносіны?







## Віктар Жыбуль: “Паэзія — гэта тая самая музыка”

## “Сідзічка” зь сюрпрызам

Унікальная прапанова ад “CD” і БМAgroup!

# Зьмест



# Рэдактарскі ліст






**Студэнцкая думка**
**N 3 (64) 2001 г.**

Заснавальнік:
**грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"**

Выдавец:
**рэдакцыя "Студэнцкай думкі"**

Рэдактар
**Ірына Віданава**

Намесьнік рэдактара
**Мікола Шакель**

Стыль і карэктура
**Алена Беляеўская**

Дызайн, вёрстка й афармленьне
**Аляксандар Мазанаў**



**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г.Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр (для рэклямадаўцаў):** 211 85 85, абанэнт 6675
**Адрэса для допісаў:** 220030, г.Менск 30, п/с 90
**Адрас у Інтэрнэце:** www.studumka.com
**E-mail:** dumka@bsa.org.by



*Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.*

*Меркаваньні аўтараў часопісу не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за розныя кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.*

*Правамі на матэрыялы валодае рэдакцыя часопісу "Студэнцкая думка". Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка абавязковая.*

*Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.*

***Надрукавана ў УП "Чырвоная Зорка", 220073, г.Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Ліцэнзія ЛП № 431 ад 01.01.2001 г.***
***Фармат 60x84 1/8.***
***Папера афсетная 65 г/м².***
***Падпісана ў друк 13. 04. 01***
***Замова № 1908***
***Наклад 2000 асобнікаў.***
***Кошт свабодны.***


Прывітаньне, шаноўныя! Вы набылі (а самыя практычныя й кемлівыя проста дасталі са сваёй паштовай скрыні) першы веснавы нумар "Студэнцкай думкі" і спадзеяцеся, што разам зь ім у ваш дом прыйдзе сапраўдная вясна і цудоўны настрой. Ваш спадзеў не дарэмны. Калі ў руках "CD", гэта значыць, што жыцьцё працягваецца і ўсё ідзе як мае быць.

Найперш – нашыя шчырыя віншаваньні з нагоды Дня Волі. Зычым, каб воля тая была ня проста прыгожым словам і пра барацьбу за яе можна было пачуць ня толькі на ўроках гісторыі.

Зьдзейсьнілася, нарэшце, нашая даўняя мара, і сёньня мы распачынаем сэрыю сацыялягічных апытаньняў. Гэтым разам нашая **група сацыёлягаў** імкнулася высьветліць, што кіруе меншымі нашымі братамі-абітурыентамі пры выбары спэцыяльнасьці й месца вучобы – адным словам, свайго лёсу. Анкетоўнікі працавалі, не шкадуючы жывата свайго. Чаму менавіта жывата? Даведаецеся з "прычапнога" артыкулу **Юлі Тонкаль.**

**Сяргей Кароль** літаральна на пальцах ухітраецца патлумачыць такія складаныя эканамічныя пытаньні, якія не па зубах нават нашаму Міністэрству эканомікі. Карысна будзе пачытаць ягоны артыкул і тым, хто ўшчэнт разьбіты веснавым авітамінозам. Усё адно, што тону аранжыкаў зьесьці…

І яшчэ пра эксклюзіў. Сёньня ў нашай рэдакцыйнай варэльні госьць – паэт **Віктар Жыбуль**. Калектыў "CD" ці не сілком трымаў яго ў рэдакцыі, покуль небарака не "раскалоўся" ўрэшце на свае новыя вершы.

Ну і канешне, што за вясна без каханьня? Спадзяемся, неардынарны погляд на праблему **Стасі Куніцкай** не перашкодзіць вам шукаць сваю другую палову, а знайшоўшы – трымацца за яе абедзьвюма рукамі (у прамым і пераносным сэнсе). У такім разе, праўда, "Студэнцкую думку" давядзецца заціснуць у зубах. Бо як жа безь яе?

Стася Куніцкая

# Love Affairs



*Спрадвеку, абіраючы чалавека, зь якім пад ручку можна было б прайсьці па жыцьці, людзі кіраваліся сваімі пачуцьцямі. У апошнія дзесяцігодзьдзі каханьне моцна процьпастаўляецца хвілінным захапленьням. Напраўду закаханыя шчыра вераць, што не памыліліся ў выбары партнэра.*

На жаль, гэтую ўпэўненасьць нічым нельга падмацаваць. Псыхолягі пераканаными, што розьніца паміж вялікім пачуцьцём і мімалётнай сымпатыяй толькі колькасная, але ня якасная. Для простых жа сьмяротных гэтыя пачуцьці наагул ёсьць нечым невытлумачальным і глыбока эмацыянальным. Іх узьнікненьне ўсяляк ахутваюць містыкай. Але ня варта шукаць таямніцы там, дзе яе няма. Уся ірацыянальнасьць каханьня зьнікае, калі перайсьці ў іншую сыстэму каардынат – адмовіцца ад цывілізацыйнасьці й згадаць першабытны лад.





## Гістарычна — заалягічны экскурс

Пячорныя людзі мала чым адрозьніваліся ад астатніх жывёлаў. У сваіх паводзінах яны кіраваліся інстынктамі. Асноўным зь іх быў (і застаецца) інстынкт працягненьня роду. Першабытны люд жыў спачатку статкам, маючы на чале правадыра. У старажытнага лідэра была абмежаваная колькасьць набліжаных. Звычайна гэта былі наймацнейшыя мужчыны з найлепшымі генэтычнымі дадзенымі. Свае гены яны інстынктыўна ймкнуліся перадаць як мага большай колькасьці нашчадкаў, таму мелі дзяцей ад вялікае колькасьці жанчын. Апошнія, у сваю чаргу, усьведамляючы абмежаванасьць сваіх магчымасьцяў у сэнсе нараджэньня дзяцей, хацелі, каб іх дзеці былі больш "якасныя". Таму абіралі з наяўнага мужчынскага кантынгенту самых-самых (звычайна лідэраў ды іх набліжаных).

Нешматлікія прадстаўнікі мужчынскай гіератычнай вярхушкі, аднак, не маглі пракарміць усіх сваіх жанок ды дзетак. Паступова грамадзтва прыйшло да аптымальнага кшталту існаваньня. Адзін мужчына клапоціцца пра адну жанчыну й пра супольных дзяцей. Разьвіцьцё цывілізаванасьці загнала інстынкт паляпшэньня папуляцыі ў падсьвядомасьць. Адтуль ён і кіруе людзьмі.

Жывёлы ж дагэтуль захавалі непасрэднасьць у інстынктах. У марскіх коцікаў 1/6 усіх самцоў апладняе 5/6 усіх самак. Астатнія змушаныя рабіць выгляд, быццам ня вельмі й хацелася... Яшчэ большыя дыспрапорцыі назіраюцца ў марскіх ільвоў. 4% самцоў забясьпечваюць 88% усіх кантактаў. Такая сытуацыя ёсьць тыповай для ўсіх стадных жывёлаў. У відаў парных — да якіх, нагадаем, ад пэўнага часу належаць і Homo Sapiens — ячэйкі зьвярынага грамадзтва ўтвараюцца для супольнае абароны ад ворагаў і гадаваньня дзетак. Прычым апошнія найчасьцей маюць айчыма пры жывым бацьку. Самкі здраджваюць свайму законнаму мужу, часта проста на ягоных вачох.

## Мудрасьць маці — прыроды

Імкнучыся адно да аднога, мужчына й жанчына доўгі час ня могуць вызначыцца з абраньнем партнэра. Шукаючы свайго любага (сваю каханую), яны дзейнічаюць у розных кірунках, бо маюць розныя мэты. Узаемнае імкненьне часта ня мае нічога агульнага з магнэтызмам. Хутчэй яно падобнае да стасункаў пакупніка й гандляра на кірмашы. Кожны імкнецца атрымаць ад зносінаў максымальную выгаду, часта не зважаючы на магчымыя страты зь іншага боку.

Мужчына, з гледзішча тэорыі інстынктыўнасьці, ня мае патрэбы ў выбары. Яму патрэбныя ўсе жанчыны. Як бы банальна гэта ні гучала, тут варта спаслацца на мудрасьць маці-прыроды. Уявіце сабе, што ў нейкага мужчыны зьявіўся ген устойлівасьці да СНІДу. Распаўсюдзіць гэты ген у папуляцыі як мага шырэй скрайне важна. А ён, жывёлінка, верны адной жанчыне. Яна можа ашчасьлівіць яго дзесяцьцю, максымум дваццацьцю немаўляткамі. Па законах генэтыкі каштоўны ген атрымае толькі палова ад гэтае колькасьці. І гэта будзе злачынствам перад відам. Калі ж мужчына будзе паводзіць сябе па-султанску, дык ген пры добрых варунках можна будзе перадаць тысячы сваіх нашчадкаў.

Жанчына дзейнічае інакш. Калі ёй пашэнціць сустрэць гэтага ўнікальнага мужчыну, яна ня мусіць растрачваць сваё здароўе на іншых. Для карысьці віду яна павінна нарадзіць як мага больш дзяцей менавіта ад яго. Нездарма людзі традыцыйна паблажліва ставяцца да мужчынскае нявернасьці, але асуджаюць жаночыя здрады.

## Пра рангі й пачуцьці

Кожны мужчына, імкнучыся ўладкаваць свае гены, намагаецца прыцягнуць увагу як мага большае колькасьці жанчын. Адчуваючы, што яны клююць на высокі ранг у грамадзкай гіерархіі, ён прагне ўзьняць свой рангавы патэнцыял. Навукоўцы лічаць, што гэтая велічыня закладаецца ў чалавеку на генэтычным узроўні. Таму ў рэчаіснасьці гіератычны ранг палепшыць можна толькі візуальна.

У першабытным грамадзтве статус чалавека высьветліць было досыць проста. Самыя нахабныя караскаліся на гіератычную лесьвіцу па галовах сваіх супляменьнікаў, адбіраючы ў іх несамавітую маёмасьць. Цывілізацыя навучыла людзей хаваць свой фактычны статус візуальным рангам.

Каханьне, як праява інстынкту, "ня ўмее" разважаць. Таму

жанчыны часта кіруюцца толькі візуальнымі паказчыкамі, не ўглядаючыся ў факты. Здараецца, што чалавек з высокім фактычным рангам паўстае гэткім кволенькім хлюпікам. Ён пачынае румзаць, калі навокал не заўважаюць, які ён файны. Можа паказаць сябе й капрызьнікам з па-дзіцячы эгаістычным характарам, вакол якога ўсе ступаюць на мысачках, ня ведаючы, як яму дагадзіць. Магчымыя й іншыя варыянты. Галоўнае, што ён сам у сваю перавагу над іншымі верыць шчыра.

Натуральна, капрызьнік ці ныцік – ня самыя лепшыя прадаўжальнікі роду (нават з першабытнага гледзішча). Фактычны ранг, як паказальнік верагоднасьці ўладкавацца ў жыцьці, у такіх мужчын вельмі нізкі, але інстынкт дастаткова фармальна рэагуе на вышэйзгаданую самаўпэўненасьць. Апошняя ёсьць галоўнай сыгнальнай прыкметай высокага рангу. Інстынкт не вымагае тлумачэньняў, а розум такую ўпэўненасьць за перавагу не ўважае. Таму ва ўсіх узьніке апетае ў вершах ды прозе адчуваньне містычнасьці й загадкавасьці выбару каханага (любай). Кахаюць жа насуперак усялякаму здароваму сэнсу і незразумела за што.

Каго кахаюць мужчыны? Не абавязкова прынцэсаў. Інстынктыўныя крытэры ў мужчын прасьцейшыя і радыкальна адрозьніваюцца ад жаночых. Галоўныя якасьці, што вабяць мужчыну ў жанчыне, – гэта яе навізна для яго, даступнасьць і фізычная дасканаласьць. Калі ўсе гэтыя чыньнікі будуць сабраныя ў адной жанчыне, дык яна станецца самай прывабнай, і на такой жанчыне мужчыны будуць засяроджвацца перадусім. Але толькі да тае пары, пакуль не авалодаюць ейным целам ці не пераканаюцца ў адсутнасьці шанцаў.

Гэта справядліва толькі адносна жанчын як полавых партнэрак. Жонак мужчыны абіраюць розумам (калі ёсьць выбар і ёсьць розум). Пачуцьцевыя крытэры мужчынскае прыязнасьці да той ці іншай жанчыны вельмі размытыя, бо самі мужчыны, а значыць і іх густы, вельмі разнастайныя. Адылі, пільнае неабходнасьці абіраць мужчына ня мае.

Жаночы ранг для мужчыны ня дужа важны. Можа, ад высакарангавых жанчын галовы ў мужчын круцяцца мацней, але сьціплыя й сарамлівыя (нізкарангавыя) жонкі цаніліся ва ўсе часы. Вядома, што прыклады каханьня да сваіх начальнікаў ці настаўнікаў, чый візуальны ранг абумоўлены проста іх службовым становішчам ці ўзростам, сустракаюцца часьцей, чымся адваротныя сытуацыі.

Высокі ранг жанчыны можа стацца для яе крыніцай праблем з супрацьлеглым полам. Сярэднерангавыя мужчыны яе не задавальняюць ні сэксуальна, ні плятанічна (што ўжо казаць пра кандыдатаў зь нізкім рангам?). А высакарангавых ганарліўцаў мала, да таго ж яны адвечна занятыя.

## Жонка – каханка, муж – палюбоўнік

Нейк сярод студэнцтва – найбольш заклапочанае пошукамі спадарожніка па жыцьці часткі грамадзтва – было праведзенае апытаньне (вядома, не такое глябальнае, як зладзілі для гэтага нумару супрацоўнікі "CD", а так – цацачкі). Вынікі адлюстраваныя ў табліцах. Кажучы проста, левыя графы адлюстроўваюць першабытныя ідэалы, правыя – каштоўнасьці сямейнага жыцьця. Яны зьяўляюцца амаль люстэркава перавернутымі адбіткамі адно аднаго. Асабліва гэта характэрна для апытаных дзяўчат. Хлопцы праяўляюць болей пасьлядоўнасьці і больш давяраюць свайму розуму. У гэтай перавернутасьці й бачыцца асноўная прычына цяжкасьцяў высокаадукаваных людзей у пошуках жыцьцёвага спадарожніка.

Прынята лічыць, нібыта праблема нітуецца з занадта высокімі патрабаваньнямі. Дык вось, самі патрабаваньні могуць быць і ня дужа высокімі, але яны надзвычай супярэчлівыя: сэрца хоча таго, што розум справядліва адхіляе, пажаданьні ж розуму не задавальняюць сэрца. Дабрыня, прыстойнасьць, шчырасьць, павага да іншых людзей, тактоўнасьць, сумленьне традыцыйна лічацца якасьцямі культурнага чалавека й добрага сямейніка, але разам з тым зь першабытнага гледзішча – гэта прыкметы нізкага рангу ў іерархіі!

Жанчына ж імкнецца згуртаваць вакол сябе максымум высакарангавых прэтэндэнтаў на ейнае сэрца й руку. Круціць адразу некалькі раманаў — прывілей выключна жаночы (шматлікія захапленьні лавэласаў за раманы ўважаць ня варта). Яна нібы зьбірае прадстаўнікоў мужчынскага полу ў калекцыю. Чым больш у яе закаханых, тым багацейшы ейны выбар. Найчасьцей жа яна мае адзінага, каго сьніць і для каго жыве. Іншым яна пакідае надзею толькі інстынктыўна. У іх, адцемлю, няма ніякіх шанцаў.

У гэтым апытаньні выяўлялася таксама й стаўленьне моладзі да алькаголю. Дзяўчатам, натуральна, даспадобы муж, які абмінае піўнякі за сотню крокаў, але на практыцы цьвярозасьць не дае хлопцам ніякіх перавагаў. Наадварот, выклікае пэўную насьцярожанасьць. Алькаголь, падаўляючы высокія праявы розуму, надае чалавеку падабенства да ягоных вельмі далёкіх продкаў, і гэта "даспадобы" першабытным інстынктам. Няцяжка заўважыць, як цесна нітуюцца стасункі полаў з алькаголем: якое каханьне без шампанскага?

*P.S. У гэтых развагах на поўную магутнасьць чуецца голас інстынкту, прагматычны й натуральны. Мысьлярскі падыход, а таксама ўсю рамантыку стасункаў мужчыны й жанчыны ды праблемы шлюбу пакідаем у цені. Розум у кожнага мусіць быць свой, дый непаўторнасьць адносінаў таксама мае быць аўтарскай.*

*Спадзяюся, што хлопцы, дачытаўшы да гэтага месца, ня будуць крыўдаваць на сваіх мілых з-за іхняга жаданьня падабацца ня толькі ім.*



*Найлепшая, па меркаваньні хлопцаў,*

| | Дзяўчына | Жонка |
|---|---|---|
| 1 | **Прыгожая** | Справядлівая |
| 2 | **Жыцьцярадасная** | Жыцьцярадасная |
| 3 | **Любіць танчыць** | Працавітая |
| 4 | **З пачуцьцём гумару** | Умее валодаць сабой |
| 5 | **Сьмелая** | Энэргічная |
| 6 | **Разумная** | Любіць сваю працу |
| 7 | **Стараецца дапамагчы іншым** | Стараецца дапамагчы іншым |
| 8 | **Энэргічная** | Разумная |
| 9 | **Працавітая** | З пачуцьцём гумару |
| 10 | **Валявая** | Валявая |
| 11 | **Любіць сваю працу** | Прыгожая |
| 12 | **Умее валодаць сабой** | Сьмелая |
| 13 | **Справядлівая** | Любіць танчыць |
| 14 | **Высокая** | Высокая |

*Найлепшы, ва ўяўленьні дзяўчат,*

| | Хлопец | Муж |
|---|---|---|
| 1 | **Энэргічны** | Працавіты |
| 2 | **Жыцьцярадасны** | Справядлівы |
| 3 | **Прыгожы** | Разумны |
| 4 | **Любіць танчыць** | Умее валодаць сабой |
| 5 | **Высокі** | Сьмелы |
| 6 | **З пачуцьцём гумару** | Валявы |
| 7 | **Стараецца дапамагчы іншым** | Жыцьцярадасны |
| 8 | **Разумны** | Любіць сваю працу |
| 9 | **Справядлівы** | Стараецца дапамагчы іншым |
| 10 | **Валявы** | Энэргічны |
| 11 | **Сьмелы** | З пачуцьцём гумару |
| 12 | **Любіць сваю працу** | Любіць танчыць |
| 13 | **Працавіты** | Высокі |
| 14 | **Умее валодаць сабой** | Прыгожы |

# СьВет Абітурыента

## (Вынікі эксклюзіўнага сацыялягічнага апытаньня "CD")

*Як мы й абяцалі, часопіс "Студэнцкая думка" распачынае сэрыю сацыялягічных досьледаў, прысьвечаных праблемам моладзі й студэнцтва.*

Увесь мінулы месяц мы працавалі як апантаныя: імкнуліся высьветліць, пра што думаюць абітурыенты, якія зьбіраюцца паступаць у ВНУ. Складалі анкеты, апытвалі студэнтаў (што, як высьветлілася, не заўсёды так ужо й прыемна), зьбіралі й падлічвалі дадзеныя. І ва ўсім, заўважце, імкнуліся строга прытрымлівацца складаных сацыялягічных працэдураў, каб – барані Божа! – ня выдаць "на-гара" (то бок вам) недакладную інфармацыю. Што атрымалася – вы зараз бачыце. Спадзяемся, вам будзе цікава.

Дзеля пачатку – ***некаторыя зьвесткі пра досьлед.***

**Выбарка.** Структура сацыялягічнай выбаркі мусіць адпавядаць структуры сукупнасьці, якая вывучаецца. Больш лягічна было б склaсьці выбарку, структураваную паводле месца жыхарства абітурыентаў, але… Як высьветлілася, гэткае статыстыкі ніхто цэнтралізавана не вядзе (абітурыенты – белая пляма на мапе мінстату). Таму мы пайшлі па шляху найменшага супраціву: выбарка была складзеная прапарцыйна колькасьці студэнтаў, што навучаюцца па тым ці іншым профілі. Апроч таго, кантралявалася доля менчукоў сярод тых, каго мы апытвалі.

***Чыё меркаваньне нас цікавіла.*** У якасьці рэспандэнтаў былі абраныя студэнты першага курсу, якія вучацца ў менскіх ВНУ чатырох асноўных профіляў. Усяго было апытана 320 чалавек. Варта патлумачыць, чаму мы спыніліся менавіта на такім варыянце.

Чаму апытваліся толькі ***студэнты першага курсу?*** Папершае, яны яшчэ добра памятаюць той час, калі былі абітурыентамі. Па-другое, менавіта ад іх можна атрымаць самыя сьвежыя зьвесткі пра сытуацыю вакол паступленьняў у ВНУ: на дадзены момант яны апошнія, хто прайшоў праз гэтае пекла.

Чаму ***менскія*** ВНУ? Асабіста мне не хацелася б засяроджваць на гэтым увагу, але – "ісьціна даражэйшая"! У ідэале досьлед мусіў быць праведзены паводле выпадковае выбаркі ва ***ўсіх*** ВНУ РБ, але ж марыць ня шкодна. І ўсё ж нашае вырашэньне праблемы даволі-ткі прымальнае, паколькі ў Менску вучыцца ці не палова студэнтаў рэспублікі, і ў выніку выбарка атрымалася досыць прадстаўнічая. Хоць мы, канешне, добра ўсьведамлялі, што маем справу з самымі падрыхтаванымі, самымі ўпэўненымі ў сабе, самымі амбітнымі й авантурнымі студэнтамі.

***Чатыры асноўныя профілі.*** А менавіта – пэдагагічны, тэхнічны, эканамічны, гуманітарны. Чаму яны? Усё проста: на іх прыпадае 84% студэнтаў РБ. Акрамя таго, гэта спэцыяльнасьці, на якія можа паступіць кожны, хто атрымаў сярэднюю адукацыю й прэтэндуе на прафэсію, што не вымагае *надзвычайных* якасьцяў ды здольнасьцяў. Такім чынам, пакідаем за бортам нашага досьледу студэнтаў вайсковых, музычных, духоўных, хвізкультурных ды іншых гэткага ж кшталту ВНУ.

## Што канкрэтна мы дасьледВалі?

Мы паспрабавалі сканструяваць Сьвет Абітурыента і зьмясьціць туды ўсё, з чым мае справу чалавек, які наважыўся паступаць у ВНУ. Што ўваходзіць у гэты сьвет? Праблемы, якія трэба вырашыць, дзеючыя асобы, якія перашкаджаюць альбо дапамагаюць, магчымасьці, якія трэба тэрмінова выкарыстоўваць, сам абітурыент, разгублены й варты жалю альбо сабраны й самаўпэўнены. Трагізму дадае тое, што ўсе рашэньні трэба прымаць упершыню і тэрмінова: паступаючы ў ВНУ, чалавек робіць заяўку на пэўную кар'еру, лад жыцьця, лёс.

Асноўнымі чыньнікамі, уплыў якіх на рашэньні абітурыентаў мы адсочвалі, былі: узрост; пол; тып сярэдняе навучальнае ўстановы, якую скончыў абітурыент; тое, колькі разоў ён паступаў у ВНУ раней; адукацыя бацькоў; папярэдні досьвед (ці працаваў, ці ўжо вучыўся дагэтуль у ВНУ); месца жыхарства. Стан патэнцыйнага студэнта вызначаўся тым, як ён ацэньваў свае шанцы паступіць.

Наагул "баявы дух" абітурыентаў можна ацаніць як "хутчэй высокі": 15% былі ўпэўненыя, што паступяць, 38% – "хутчэй упэўненыя", 27% прызнавалі, што верагоднасьць паступленьня і правалу была аднолькавая, 2% меркавалі, што "хутчэй не паступяць", 7% ішлі на іспыты без усялякіх шанцаў.

## Як разнастайныя чыньнікі ўплывалі на ўпэўненасьць абітурыента ў паступленьні?

Ніжэй мы прыводзім зьвесткі, атрыманыя з дапамогай мэтоды перакрыжаваных груповак, калі ў групах з разнастайнымі характарыстыкамі вызначаецца доля людзей, падданых уплыву таго ці іншага чыньніка. Напрыклад, вылічваецца адсотак прадстаўнікоў прэстыжных навучальных установаў сярод людзей, упэўненых у тым, што абавязкова паступяць. Калі гэтыя лічбы апынуцца дастаткова вялікімі, можна будзе казаць пра тое, што высокі статут навучальнае ўстановы станоўча ўплывае на ўпэўненасьць абітурыентаў у сваіх сілах… Табліцы перакрыжаваныя групоўкі вельмі груваcткія й нязручныя для ўспрыманьня ды разуменьня, таму мы не зьмяшчаем іх тут – вам давядзецца верыць нам на слова.

І ўсё ж які ўплыў маюць тыя ці іншыя абставіны на ўпэўненасьць абітурыентаў у перамозе?

1. Папярэдні досьвед паступленьня. Тыя, хто паступаў другім разам, апынуліся крыху болей самаўпэўненымі: сярод тых, хто быў "хутчэй упэўнены" ў паступленьні, адсотак абітурыентаў "са стажам" вышэйшы, чымся па выбарцы ў цэлым.

2. Адукацыя бацькоў. Сярод "цалкам упэўненых" колькасьць тых, чые бацькі маюць вышэйшую адукацыю, крыху большая, чымся ў іншых групах. Разам з тым, дзяцей "высокаадукаваных" бацькоў апынулася надта многа сярод тых, хто меркаваў, што "хутчэй не паступіць". Сярод "хутчэй упэўненых" мнагавата тых, чые бацькі маюць нясконачаную вышэйшую альбо сярэднюю спэцыяльную адукацыю.

3. Тып сярэдняй навучальнай установы. Тыя, хто скончыў звычайную сярэднюю школу, складаюць большы, чымся па выбарцы ў цэлым, адсотак сярод тых, хто меўся "хутчэй не паступіць", і меншы сярод тых, хто быў "цалкам упэўнены" ў тым, што паступіць. Людзей, якія закончвалі розныя там каледжы, гімназіі й ліцэі, болей сярод "упэўненых" і "цалкам упэўненых".

4. Узрост. Тут – ніякіх сюрпрызаў: чым сталейшы чалавек, тым болей ён упэўнены ў сабе.

5. Месца жыхарства. Цікава, але найбольшай самаўпэўненасьцю вылучаліся жыхары раённых цэнтраў, а менчукі склалі анамальную большасьць сярод тых, хто думаў, што "хутчэй паступіць". З чаго б гэта?

6. Пол. Хлопцы апынуліся больш упэўненымі ў сваіх сілах. Большасьць зь іх – сярод "цалкам упэўненых" і "хутчэй упэўненых". Дзяўчаты разьмеркаваліся раўнамерна.

# Як абітурыенты рыхтаваліся да паступленьня?

Роўна чвэрць займалася і з рэпэтытарам, і на падрыхтоўчых курсах, па чвэрці – толькі на курсах альбо толькі ў рэпэтытара, і чвэрць – ні там, ні там. Прычым гэтая доля не залежыць ні ад тыпу навучальнае ўстановы, ні ад ступені ўпэўненасьці ў перамозе. Назіраецца некаторая залежнасьць ад полу (дзяўчаты надаюць вялікую ўвагу падрыхтоўцы да ўступных іспытаў) і ад месца жыхарства (у вёсках і селішчах гарадзкога тыпу доля тых, хто займаўся на курсах альбо з рэпэтытарам, крыху ніжэйшая).

Цяпер пагаворым пра ўплывы, уплывовых пэрсонаў, пэрспэктывы і ўпушчаныя магчымасьці. Дык як бачыць сьвет "абітура"?

Па-першае, пра ***ўплыў атачэньня на рашэньне абітурыента***. Тут мы вылучылі чатыры групы: бацькі, настаўнікі, сябры, аднаклясьнікі. Дзеля пачатку высьвятлялася, як, паводле меркаваньня абітурыента, прадстаўнікі кожнай з гэтых групаў ставіліся да ягонага рашэньня паступаць.

Бацькі найчасьцей ухвалялі рашэньне сваіх чадаў і актыўней за астатніх штурхалі да паступленьня ў ВНУ. Настаўнікі таксама ўхвалялі гэткую ініцыятыву. Дарэчы, гэтая група адрозьніваецца яшчэ й тым, што менавіта перад настаўнікамі пераважная колькасьць апытаных баіцца "згубіць твар". Сябры дзейнічалі амаль гэтаксама, як і бацькі, з той толькі розьніцай, што першыя радзей агітавалі за паступленьне, часьцей былі абыякавыя. Аднаклясьнікі ўяўляюцца рэспандэнтам, а праз іх і нам з вамі, як адкрыта варожая групоўка. Сярод іх найменшы адсотак тых, хто ўхваляў рашэньне вучыцца далей, удвая больш, чымся ў астатніх групах, абыякавых, затое агромністы адсотак тых, перад кім страшнавата "згубіць твар".

Разважаючы пра паступленьне, абітурыент насамрэч прымае мноства дробных рашэньняў: ці атрымліваць вышэйшую адукацыю, якую спэцыяльнасьць абраць, куды менавіта паступаць.

Што бралі ў разьлік тыя, каго мы апытвалі, калі вызначаліся зь месцам навучаньня й спэцыяльнасьцю? Як уплывала на гэтае рашэньне атачэньне?

## Чаму людзі імкнуцца атрымаць вышэйшую адукацыю?

Пытаньне гучала наступным чынам: "Что именно подтолкнуло Вас к поступлению в вуз?" *(табліца 1)*

***(табліца 1)***

| Причины, среди которых респондентам предлагалось указать те, что определили их выбор | *Считали эту причину достаточной, чтобы поступать в ВУЗ* Сам респондент | Его родители | Его друзья | Его учителя |
|---|---|---|---|---|
| Желание побольше узнать | 43% | 16% | 6% | 16% |
| Возможность повысить свой статус | 51% | 29% | 9% | 12% |
| Возможность в будущем претендовать на престижную денежную работу | 67% | 35% | 14% | 7% |
| Возможность общаться с "продвинутыми" людьми | 51% | 17% | 12% | 8% |
| Возможность приобрести связи в профессиональной среде | 46% | 21% | 6% | 3% |
| Возможность вести студенческую жизнь | 44% | 8% | 21% | 2% |
| Возможность избежать необходимости прямо сейчас искать работу | 12% | 10% | 8% | 2% |
| Возможность уехать из своего населенного пункта | 20% | 8% | 11% | 2% |
| Возможность избежать армии | 7% | 6% | 5% | 0% |
| Хотели доказать другим, что Вы это можете | 42% | 9% | 3% | 5% |
| Вы хотели проверить свои силы | 36% | 7% | 1% | 7% |
| Другие варианты еще хуже | 2% | 3% | 1% | |

Кожны рэспандэнт мог выбраць любую колькасьць варыянтаў адказу на пытаньне, таму сума адсоткаў па слупках ня роўная ста.

Паглядзім, якія матывы да атрыманьня вышэйшай адукацыі найбольш папулярныя. Як вынікае з табліцы, самым распаўсюджаным быў намер скарыстаць вышэйшую адукацыю як прыступку да атрыманьня прэстыжнае, грашовае працы ў будучыні. Акрамя таго, шмат хто лічыў вышэйшую адукацыю прымальным спосабам падвысіць свой статут, а таксама пазнаёміцца з "прасунутымі" людзьмі. З усяго гэтага можна зрабіць выснову, што вышэйшая адукацыя разглядаецца як прыкмета прыналежнасьці да эканамічнай, прафэсійнай і інтэлектуальнай эліты. Што, перадусім, ня ёсьць адкрыцьцём.

Чаму бацькам хацелася б бачыць сваіх дзяцей студэнтамі? Здагадацца, пра што думаюць бацькі, было цяжэй, чым выкласьці ўласнае меркаваньне, таму лічбы тут атрымаліся меншыя. Часьцей за ўсё бацькі даводзілі, што вышэйшая адукацыя – спосаб знайсьці добрую працу, а таксама займець сувязі ў прафэсійным асяродку.

Тое, пра што думалі й казалі настаўнікі, мала хто памятае (вы толькі зірніце на гэтыя сьціплыя лічбы!). Усё, што прыходзіла рэспандэнтам да галавы, гэта тое, што настаўнікі выступалі за набыцьцё ведаў дзеля саміх ведаў і абяцалі залатыя горы тым, хто пойдзе вучыцца далей. Сябры ж у асноўным згадвалі пра студэнцкае жыцьцё.

## Паводле якіх крытэраў ацэньваліся шанцы чалавека паступіць у ВНУ?

Пытаньне было сфармуляванае наступным чынам: "Что заставляло Вас и Ваше окружение положительно оценивать Ваши шансы на поступление в вуз?"

Табліца 2 прыводзіцца без камэнтараў, яна кажа сама за сябе. Адказы цалкам лягічныя.

## Чаму людзі абіраюць тую ці іншую спэцыяльнасьць?

Пытаньне гучала як "Почему Вы выбрали именно эту специальность?" *(табліца 3)*.

Разьмеркаваньне прычынаў вельмі падобнае ва ўсіх групах атачэньня і ў саміх абітурыентаў. Часьцей за ўсё згадвалася тое, што прафэсія мусіць адпавядаць схільнасьцям. Потым браўся пад увагу прэстыж прафэсіі, а пасьля – магчымасьць знайсьці добрую працу.

***(табліца 2)***

| Причины, среди которых респондентам предлагалось указать те, что определили их выбор | *Считали, что это увеличивает шансы поступить* Сам респондент | Его родители | Его друзья | Его учителя |
|---|---|---|---|---|
| Вы учились на "отлично" | 32% | 26% | 15% | 23% |
| Вы имели репутацию всезнайки | 6% | 12% | 22% | 12% |
| Вы хорошо успевали только по нескольким, но нужным предметам | 40% | 14% | 8% | 16% |
| Вы имели возможность учиться на платной основе | 11% | 16% | 5% | 2% |
| Вы надеялись, что администрация вуза заинтересуется Вами как спортсменом | 7% | 3% | 2% | 2% |
| Вы надеялись, что Вам повезет | 48% | 15% | 14% | 7% |
| Выпускники Вашей школы имели особые условия при поступлении в вуз | 6% | 3% | 5% | 7% |
| Вы надеялись на связи в администрации вуза или среди преподавателей | 4% | 3% | 3% | 4% |

*(табліца 3)*

| Причины, среди которых респондентам предлагалось указать те, что определили их выбор | Считали эту причину достаточной, чтобы выбрать специальность | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Сам респондент | Его родители | Его друзья | Его учителя |
| Считал(а) эту специальность наиболее престижной | 38% | 18% | 5% | 6% |
| Считал(а) эту специальность наиболее соответствующей моим склонностям | 54% | 17% | 12% | 16% |
| Не смог(ла) поступить на ту специальность, которую хотел(а) получить | 15% | 7% | 2% | 2% |
| Пошел(ла) по пути наименьшего сопротивления | 17% | 7% | 4% | 2% |
| По этой специальности будет просто найти работу | 23% | 14% | 7% | 5% |
| По этой специальности можно будет найти хорошую работу | 34% | 18% | 5% | 4% |
| Я раньше учился(лась) по этой специальности | 9% | 3% | 2% | 3% |
| Я раньше работал(а) по этой специальности | 6% | 2% | 2% | 1% |
| Есть место, куда меня точно возьмут, если я освою эту специальность | 8% | 8% | 4% | 3% |

## Што ўплывае на выбар месца навучаньня?

Пытаньне мела наступную фармулёўку: "Почему Вы выбрали именно это место учебы?" *(табліца 4)*.

Самі абітурыенты часьцей за ўсё бралі ў разьлік тое, якія іспыты трэба здаваць, ці ўлічваецца залаты мэдаль ды граматы, які конкурс, ці добры інтэрнат... Бацькі думалі пра тое самае, хіба што болей дбалі пра сацыяльныя льготы і меней – пра інтэрнат. Сяброў турбавалі збольшага іспыты й конкурс. Настаўнікі найчасьцей зьвярталі ўвагу на іспыты, конкурс, граматы й залатыя мэдалі.

Апроч усяго астатняга, падчас правядзеньня досьледу мы паспрабавалі праліць сьвятло на тое, якімі крыніцамі інфармацыі карыстаюцца абітурыенты пры выбары спэцыяльнасьці *(табліца 5)*.

Найбольш поўнай рэспандэнты часьцей за ўсё называлі інфармацыю, атрыманую з рэклямовых аб'яваў ВНУ, потым – ад знаёмых, якія ўжо працуюць

*(табліца 4)*

| Причины, среди которых респондентам предлагалось указать те, которые определили их выбор | Считали эту причину достаточной, чтобы выбрать специальность | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Сам респондент | Его родители | Его друзья | Его учителя |
| Здесь был наименьший конкурс | 14% | 8% | 6% | 5% |
| Здесь сдавались экзамены по предметам, которые я мог(ла) успешно сдать | 66% | 25% | 12% | 17% |
| Здесь при поступлении учитывались моя золотая медаль, грамоты по предметам, спортивный разряд и т.п. | 22% | 10% | 2% | 5% |
| Здесь учитывались социальные льготы | 8% | 9% | 3% | 3% |
| Здесь есть военная кафедра | 7% | 4% | 3% | 1% |
| Здесь я могу продолжать заниматься спортом на профессиональном уровне | 4% | 2% | 2% | 1% |
| Здесь хорошее общежитие | 16% | 5% | 4% | 2% |
| Здесь хорошие шансы перейти на бесплатное отделение | 8% | 6% | 1% | 2% |





*(табліца 5)*

| Источники информации, которыми респондент предположительно пользовался, принимая решение о поступлении на ту или иную специальность | Оценка, данная респондентом информации, полученной из этих источников | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Респондент доверял этой информации | Респондент не доверял этой информации | Респондент нашел эту информацию полной, исчерпывающей | Респондент нашел эту информацию неполной, отрывочной |
| Профориентация в школе | 6% | 9% | 6% | 18% |
| Советы учителей | 11% | 9% | 19% | 19% |
| Советы родителей | 16% | 7% | 8% | 14% |
| Советы друзей | 5% | 10% | 13% | 17% |
| Информация о специальности, которую можно получить из ТВ-передач, фильмов, книг | 6% | 6% | 22% | 22% |
| Рассказы знакомых, которые работают по этой специальности | 10% | 4% | 2% | 9% |
| Рассказы знакомых, которые учились по этой специальности | 0% | 3% | 16% | 1% |
| Информация из справочников для абитуриентов | 8% | 0% | 26% | 8% |
| Информация из рекламных объявлений вузов | 12% | 1% | 13% | 23% |

па той ці іншай спэцыяльнасьці, потым – ад бацькоў, і ўжо пасьля – з даведнікаў для абітурыентаў.

Няпоўнымі найчасьцей прызнавалі зьвесткі, атрыманыя... з тых жа рэклямовых аб'яваў ВНУ! Амаль столькі ж апытаных лічаць няпоўнай інфармацыю зь фільмаў, кніг і тэлеперадачаў. Далей шчыльным гуртом ідуць прафарыентацыя ў школе, парады настаўнікаў і сяброў.

Надзейнымі, вартымі даверу называлі наступныя крыніцы: найчасьцей – бацькоўскія парады, крыху радзей – рэкляму ВНУ, потым – парады тых, хто працуе па гэтай спэцыяльнасьці. На апошнім месцы – меркаваньне настаўнікаў.

Сярод ненадзейных часьцей за ўсё згадвалі парады тых самых настаўнікаў, а таксама бацькоў і сяброў.

Вось, уласна кажучы, і ўсё, што мы хацелі паведаміць вам пра выніки нашага досьледу. Засталося толькі дадаць, што апытаньне было праведзенае ***групай сацыёлягаў*** па замове часопісу ***"Студэнцкая думка"***.

## Ад рэдакцыі

Пры правядзеньні гэтага апытаньня мы нечакана сутыкнуліся з праблемай. Справа ў тым, што анкеты былі складзеныя на расейскай мове: нашыя сацыёлягі імкнуліся зрабіць выбарку як мага больш прадстаўнічай, задзейнічаўшы таксама й тых студэнтаў, якія дрэнна валодаюць беларускай. Да таго ж, у такіх варунках яны маглі спадзявацца, што рэспандэнты заўсёды адэкватна зразумеюць сутнасьць пытаньняў. Сацыялёгія, даводзілі дасьледчыкі, мусіць *вывучаць* грамадзкую думку, але не *ўплываць* на яе, таму мы не павінны навязваць рэспандэнту свае ўмовы.

Што да публікацыі вынікаў, тое самае імкненьне да аб'ектыўнасьці не дазваляе нам перакладаць фрагмэнты анкетаў з расейскай мовы: чытач павінен мець перад вачыма тыя самыя пытаньні, якія бачылі рэспандэнты ў сваіх анкетах.

Вядома, аргумэнты сацыёлягаў цалкам слушныя. Але, на нашую думку, адваротным бокам праблемы ёсьць тое, што беларуская сацыялягічная школа пакуль дрэнна акрэсьленая. Зноў жа, беларуская тэрміналёгія ў гэтай галіне яшчэ не сталася агульнапрынятай, а ў любой навуцы шматзначнасьць і магчымасць розных інтэрпрэтацыяў цалкам непрымальныя. Што да аб'ектыўнасьці, сам факт публікацыі вынікаў апытаньня, пагадзіцеся, ужо ўплывае – хоча таго дасьледчык ці не – на меркаваньне чытача. Згадайма тыя самыя "сацыялягічныя бумы" напярэдадні розных выбараў.

*Такім чынам, пытаньне застаецца адкрытым. Чакаем на вашыя допісы!*

Юля Тонкаль

# Заемкі анкетоўніка

*Вы седзіце дома, едзеце ў мэтро, ідзяце па вуліцы і нікога не чапаеце. Раптам да вас падыходзіць нейкі чалавек, робіць дзіўныя прапановы, совае ў рукі паперку й асадку. Не пужайцеся, гэта сацыёляг. Ён – змагар нябачнага фронту. Тое, што пасьля зьявіцца ў газэтах, – толькі вяршыня айсбэрга, імя якому – апытаньне. Хочаце даведацца, што там, пад вадой? Тады прапаную вашай увазе гэтыя "нататкі анкетоўніка".*

Мой сацыялягічны стаж не такі ўжо вялікі: колькі апытаньняў падчас унівэрсытэцкай практыкі – праўда, кватэрных, што значна ўскладняе справу. Тады мне пашанцавала, і ўсё абышлося без асаблівых эксцэсаў.

Так што апытаньне для "Студэнцкай думкі" было для мяне рэччу даволі новай. Я ня ведала, якіх сюрпрызаў чакаць ад анкетаваньня па інтэрнатах, таму йшла "на дзела" зь некаторым хваляваньнем. Хаця сама я студэнтка і ведаю, што мы – народ, у прынцыпе, просты, добры й спагадлівы.

Як высьветлілася, самае складанае – стварыць патрэбнае ўражаньне на строгіх вахтэрак, якія, што тыя цэрбэры, пільна ахоўваюць сьвятоўны ўваход ва ўлоньне студэнцкага жытла. Але я хутка асвойталася ў гэтай справе. Складаней за ўсё было "прабівацца" ў інтэрнат БДПА. Вахтэрка, высалапіўшы на мяне кругленькія падазроныя вочкі і аглядаючы з галавы да ног (ці не дывэрсантка я?), пагрозьліва пыталася: "І Вы што, па ўсіх пакоях зьбіраецеся швэндацца? Ведаем мы такіх! А калі зьнікне што-небудзь, хто адказваць будзе? Я?! Мне сказана – нікога не пускаць!" "Ну чым я магу парушыць спакой інтэрнату? – скуголіла я. – Я ж Вам дакумэнты пакідаю..." Я сьціпла совала свой студэнцкі. "А што мне Ваш студэнцкі? Вы, можа, і ня вернецеся за ім", – вахтэрка была няўмольная. Быццам маці, што абараняе роднае дзіця, яна грудзьмі засланіла ўваход у інтэрнат. "Ну хочаце, я пашпарт пакіну", – як апошні козыр выклала я перад ёй сіненькую кніжачку. Падзейнічала! Вахтэрка кінула мне ўсьлед: "Вось гэта іншая справа! За пашпартам, я ведаю, Вы вернецеся". "Я б і за студэнцкім вярнулася", – мовіла я на разьвітаньне, патрапіўшы нарэшце ў жаданую "абіцель".

Сустракалі мяне хто як. Некаторыя няўцямна лупілі зенкі, як на Бог ведае які цуд. Іншыя былі болей цікаўнымі і засыпалі мяне пытаньнямі: "Што? Хто? Навошта? Адкуль?" Трэція падазрона прасілі спачатку паглядзець анкету, з разумным тварам расчытвалі пытаньні, а потым, узьняўшы вочы да столі, разважалі, ці не занадта "ў лом" будзе ўсё гэта запоўніць. Проста было з тымі, хто бяз доўгіх роспытаў і развагаў цягнуў асадкі да анкеты. Бывала, набегаешся па пакоях, па паверхах, натлумачысься, ажно язык не варочаецца. Толькі й выцісьнеш зь сябе: "Праводзіцца апытаньне, ці не запоўніце анкетку?.." Тады я з асаблівай удзячнасьцю глядзела на людзей, што адразу пагаджаліся, прастадушна адказваючы: "Давайце!" Забіраючы анкету, апроч традыцыйнага "дзякуй", я не забывалася адвесіць тым добрым людзям паклончык ці зрабіць рэвэранс. Некаторыя студэнты наагул сустракалі мяне як свайго чалавека: "Праходзьце, сядайце! Гарбата, кава, што-небудзь мацнейшае?" Сэрвіс, як у лепшых дамах Парыжу. Пакуль я тлумачыла, што спачатку раздаю анкеты, а потым хвілін праз 20-30 за імі вяртаюся, добрыя гаспадары ўжо пасьпявалі пасьлаць "ганца" ў найбліжэйшую краму. "Ды пасядзіце з намі! Як Вас зваць? Вы што п'яце?" – пачыналі ўламываць мяне. Я катэгарычна адмаўлялася ад сьпіртовых напояў – маўляў, на працоўным месцы не ўжываю, а вось гарбатай-кавай зрэдзьчасу падбадзёрвала свой стомлены арганізм. Колькі разоў нават накармілі! Проста, правёўшы ўвесь дзень на апытаньні, я не ўтрымалася ад спакусы заткнуць рот галоднаму страўніку. Першым разам усё атрымалася даволі проста: я зайшла, каб забраць анкеты, мне іх урачыста ўручылі, я падзякавала й скіравалася да выхаду, калі раптам пачула за сьпіной: "А можа, Вы есьці хочаце?" Спачатку я засьмяялася ад нечаканасьці. А потым, апусьціўшы вочкі, сьціпла вымавіла: "Ну...шчыра кажучы... хачу!" Мяне тут жа пасадзілі за стол, на самае ганаровае месца. Наклалі поўную талерку кашы, паставілі побач два слоікі з хатнімі закаткамі. Другім разам мяне прынцыпова не хацелі выпускаць з пакою, пакуль я не пакаштую студэнцкага хлеба надзённага. Такімі гасьціннымі апынуліся хлопчыкі з БДТУ. Амаль не саступалі ім хлопцы з РТІ, цяперашняга БДУІР, дзе мяне напаілі выкшталцонаю кавай. БДЭУ і БДПА – крыху больш сьціплыя.

Натрапілася мне й невялічкая частка выбаркі па маім родным інтэрнаце. Гэта было, вядома, прасьцей простага. Раскідала анкеты, папрасіла па запаўненьні аднесьці да мяне ў пакой. Народ у нас кемлівы й адказны, усё зрабіў як мае быць. Праўда, суседкі па пакоі потым мяне ледзьве не забілі, таму што я не ўлічыла адную рэч: у той вечар мы вырашылі загадзя адсьвяткаваць 8 сакавіка, бо на само сьвята разьязджаліся па хатах. Толькі ўселіся, дружна ўзьнялі куфлі зь півам, як у пакой пачалося сапраўднае паломніцтва. Праз кожныя тры хвіліны чуўся грукат у дзьверы і хто-небудзь заходзіў з анкетай.

Наагул, цікавых выпадкаў было багата. Адзін хлапец адчыніў мне дзьверы свайго пакою і, гледзячы проста ў вочы, спытаў: "Кто Вы?" Я вельмі доўга распавядала яму, адкуль я й навошта прыйшла. Але зьдзіўленьне ў ягоных вачох не зьнікала. Нарэшце, стаміўшыся ад доўгіх тлумачэньняў, я проста запыталася: "Дык запоўніце анкету?" На што атрымала бліскучы адказ: "Я па-русски нэ понимать". У іншым пакоі мяне сустрэлі немым крыкам: "Лаві ката! Лаві ката!!!" Я кінулася даганяць хітрую жывёлінку, якая, адчуўшы пах свабоды, прашмыгнула ў адчыненыя дзьверы й порстка пабегла па калідоры, пры гэтым шукаючы, куды б схавацца. І гэтая брыдкая кацяра (даруй, "Грынпіс"!) ужо пачала праціскацца ў нейкую шчыліну, але я пасьпела схапіць яе за тое, чым у катоў звычайна завяршаецца тулава, і, нягледзячы на гучныя пратэсты, аднесла ўсхваляваным гаспадарам.

Адзін хлопец з РТІ пабіў усе рэкорды па працягласьці запаўненьня анкеты. Сказаў мне: "Вы пакуль папіце кавы, а я зараз хуценька запоўню". Я й паверыла. Анкету з 12 пытаньняў ён запаўняў больш за гадзіну, уголас разважаючы над кожным пытаньнем. За гэты час я пасьпела выпіць два вялікія кубкі кавы, да драбніцаў вывучыла інтэр'ер і ледзьве не заснула. "Вы занадта па-філязофску ставіцеся да пытаньняў", – ня вытрымала я нарэшце. Хлопец зьдзіўлена ўськінуў бровы: "Я проста прывык думаць над тым, што раблю". Я змаўчала й цярпліва дачакалася канца запаўненьня.

У інтэрнаце наргасу мяне ўразілі мудрагелістыя пераходы паміж паверхамі. Ліфта было не дачакацца. Калі ж ён прыходзіў, то быў ужо поўны. Давялося йсьці нейкімі хітрымі лябірынтамі: калідоры – дзьверы – гаўбцы – зноў дзьверы... А ў БАТУ зьдзівілі мяне сваёй звычкай зачыняць знутры блёкі і не рэагаваць на грукат. Потым ужо мне патлумачылі, што ёсьць адмысловая сыстэма груку: калі стукаеш ня так, цябе прымуць за інтэрнацкую праверку і, натуральна, не адчыняць. Давялося мне вывучыць яшчэ й азбуку Морзэ.

А наагул, адмоваў было небагата. Нехта проста быў заняты, сёй-той паленаваўся, некаторыя незадаволена адказвалі, што анкета вялікая (і гэта 12 пытаньняў!), ці пужаліся табліцаў ("Вой, тут усё так складана!"). Але гэта былі адзінкі. У большасьці ж выпадкаў мне былі радыя, запрашалі зноў у госьці (з анкетамі ці без), прасілі пакінуць адрэсу. У РТІ нават выказалі асаблівае пажаданьне: "Вы б паболей дзяўчат з сабой прыводзілі на сваё анкетаваньне. А то ў нас адныя хлопцы". Прывядзем! Сэрыя апытаньняў ад "CD" толькі пачынаецца.

*Дана Карольчык*

# Studieren in Deutschland

Тым, хто задумваецца пра магчымасьць атрымаць адукацыю дзе-небудзь за мяжой і пры гэтым валодае нямецкай мовай, будзе вельмі карысна зазірнуць у Інтэрнэт на старонку ***http://www.studieren-in-deutschland.de***. Адразу прыемна ўражваюць тры рэчы: хуткасьць, інфармацыйнасьць, шматмоўнасьць (у тым ліку ёсьць расейскамоўны варыянт) сайту. І галоўнае – усё працуе!

Сайт утрымлівае чатыры разьдзелы – “Навіны”, “Навучаньне ў Нямеччыне”, “Студэнцкае жыцьцё” і “Універсытэцкія гарады”. Адразу ж на хатняй старонцы можна пачытаць самыя гарачыя навіны й актуальную інфармацыю на тэму адукацыі, а таксама кароткія гісторыі ад першай асобы (апошняе, праўда, толькі па-нямецку) пра жыцьцё-быцьцё замежных студэнтаў у Нямеччыне. Нейкая дзівачка з Тайваню, напрыклад, распавядае, як яна безвынікова чакала ў рэстарацыі другую страву, пакуль хтосьці спагадлівы не падказаў ёй, што слова “Eintopf” у нямецкай мове азначае абед з аднае стравы.

У разьдзеле “Навучаньне ў Нямеччыне” вы перш за ўсё даведаецеся, чаму кожны дзясяты з 1.800.000 студэнтаў, якія накіроўваюцца вучыцца за мяжу, абірае Нямеччыну. Плюсаў, безумоўна, шмат. Гэта і гарманічнае спалучэньне старых унівэрсытэцкіх традыцыяў з сучаснымі дасягненьнямі навукі, і “акадэмічная свабода”, калі кожны, хто жадае, можа паступіць у нямецкі ўнівэрсытэт і пры гэтым атрымаць адукацыю бескаштоўна, і сувязь навучальнага працэсу з навуковымі досьледамі, і магчымасьць атрымаць ня толькі акадэмічныя веды, але й практычны досьвед. Дадайце сюды яшчэ й тое, што Нямеччына знаходзіцца адносна недалёка ад Беларусі, а нямецкае кіраўніцтва выказалася пра намеры пашырыць дзейнасьць праграмы “грынкард” на замежных студэнтаў, якія вывучаюць у нямецкіх ВНУ машынабудаўніцтва і прыродазнаўчыя навукі. Дарэчы, апошняе раскрывае новыя далягляды для беларускіх талентаў. Фолькер Юнг, прэзыдэнт аб’яднаньня “Біткам”, што прадстаўляе інтарэсы 1.250 прадпрыемстваў кампутаровай галіны, заўважыў, што праграма “грынкард” можа стаць яшчэ больш пасьпяховай, калі тэрмін яе дзеяньня ня будзе абмяжоўвацца пяцьцю гадамі і калі яна будзе пашыраная на ўсе краіны Эўразьвязу. Па дадзеных “Біткому”, у краінах Эўразьвязу не стае 1,9 мільёнаў спэцыялістаў-кампутароўцаў, а да 2003 году, паводле прагнозаў, гэтая лічба вырасьце да 7,5 мільёнаў. На што Герхард Шродэр адказаў, што праграма “грынкард” – гэта толькі першы крок, каб “раскруціць” нямецкі рынак працы. На яго думку, замежныя студэнты, якія атрымалі першаклясную адукацыю, напрыклад, у галіне машынабудаўніцтва і прыродазнаўства, павінны мець магчымасьць у гэтай самай краіне і працаваць, калі Нямеччына ня хоча прайграць спаборніцтва за лепшыя розумы сьвету.

Як бачым, аргумэнтаў на карысьць навучаньня ў Нямеччыне шмат. А што наконт магчымасьцяў? Падразьдзел “Стыпэндыі” распавядае пра тое, як і дзе адораныя студэнты й асьпіранты могуць атрымаць фінансавую падтрымку.





Акрамя агульнай інфармацыі, тут разьмешчаныя спасылкі на сайты, дзе знаходзяцца сьпісы арганізацыяў і фундацыяў, якія аказваюць падтрымку студэнтам і навукоўцам.

Ня менш важным з пункту гледжаньня практычнай інфармацыі ёсьць падразьдзел “Першыя крокі”, што ўтрымлівае парады навічкам, якія практычна нічога ня ведаюць пра парадак паступленьня замежных студэнтаў у нямецкія ВНУ. Пачнем з таго, што любы замежнік можа паступіць у нямецкую вышэйшую навучальную ўстанову, калі яго школьная адукацыя й веданьне нямецкай мовы адпавядаюць усталяваным правілам прыёму ў ВНУ. Падрабязную інфармацыю пра магчымасьці навучаньня ў Нямеччыне і патрабаваньні да ўзроўню нямецкай мовы можна атрымаць у Службе акадэмічных абменаў Нямеччыны (DAAD). Больш за тое, у нямецкіх ВНУ працуюць аддзелы міжнародных сувязяў, якія кансультуюць замежных абітурыентаў і прадстаўляюць жадаючым усю неабходную інфармацыю. Ізноў жа, спасылкі на вэб-старонкі, прысьвечаныя правілам паступленьня ў нямецкія ВНУ, дапамогуць хутка знайсьці неабходныя вам зьвесткі.

Цяпер, калі вы ведаеце, што вам давядзецца прайсьці дзеля таго, каб стаць студэнтам аднае зь нямецкіх ВНУ, і што стыпэндыяльных грошай, якія вы можаце атрымаць ад аднаго з фондаў, хопіць ня толькі на хлеб, але й на куфаль піва, можна крыху памарыць, павандраваўшы віртуальна па ўнівэрсытэцкіх гарадох, мапу якіх вы знойдзеце ў адпаведным разьдзеле. Кожнаму зь іх прысьвечаная асобная старонка зь невялікім расповедам пра горад і яго самую выбітную адметнасьць. Аматарам ровараў, безумоўна, трэба ехаць вучыцца ў Фрэйбург, які зьяўляецца вэласталіцай Нямеччыны, а тым, хто ня вельмі заможны, але мае гонар, варта падабраць унівэрсытэт у Брэмэне, насельнікі якога характарызуюць сябе як народ бедны, але ганарлівы... Наўрад ці гэтыя расповеды ўсур’ёз паўплываюць на ваш выбар унівэрсытэту, але, канешне ж, дапамогуць адчуць каларыт краіны, у якой вам, магчыма, давядзецца пражыць пару-тройку год.

І нарэшце, калі вас цікавяць асаблівасьці штодзённага жыцьця ў Нямеччыне, а таксама звычкі яе насельнікаў і магчымасьць нармалёва павесяліцца ў вольны ад навучаньня час, абавязкова завітайце на старонку “Студэнцкае жыцьцё”, дзе вы знойдзеце адказы на пытаньні кшталту “Ці любяць у Нямеччыне замежнікаў?”, “Ці смачная нямецкая кухня?”, “Ці сапраўды немцы пунктуальныя й працалюбівыя людзі?”

Наконт апошняга ў мяне, дарэчы, сумневаў няма. Прыкладам таму – гэтая старонка ў Інтэрнэце, дзе ўся інфармацыя пададзеная вельмі дакладна й кампактна, кожнае акенца адчыняецца і любы тэкст без праблемаў выводзіцца на друк. І яшчэ, ад наведваньня гэтага сайту вы атрымаеце ня толькі максымум карыснай інфармацыі, але й эстэтычную асалоду, паколькі ўсе тэксты напісаныя цудоўнай, лёгкай для ўспрыняцьця мовай.

## Не садзіцца ў хаце?

## Хочацца экзотыкі?

## Няма праблемаў!

Вас будуць рады бачыць на Моладзевай канфэрэнцыі ў Нэпале!

*Студэнты з розных краінаў сьвету могуць падаваць заяўкі на ўдзел у міжнароднай моладзевай канфэрэнцыі, прысьвечанай праблемам лідэрства і разьвіцьця, якая мае адбыцца ў Нэпале 4-6 лістапада 2001 г.*

**Тэрмін падачы заявак – да 1 лістапада 2001 году.**

Кантакты:

Chauyen Lai Shrestha
Secretary-General
International Youth Coordination Council
POBOX-3969, Kathmandu
Nepal

e-mail: chauyen@col.com.np
chauyenlai@hotmail.com

*Паводле:* Kronika hramadzkaga zhyccjia Haradzenshchyny <t.sektar@usa.net>


Фота Т. Конюх

# Віктар Жыбуль: "Паэзія – гэта тая самая музыка"

*Пра яго ня чуў хіба што лянівец. Сваімі, мякка кажучы, сьмелымі вершамі ён заваяваў шчырую любоў моладзі й ня менш шчырую непрыязь "старой гвардыі". Сёньня ў гасьцёх рэдакцыі "СD" сябра літаратурнага аб'яднаньня "Бум-Бам-Літ" паэт Віктар Жыбуль. Зусім нядаўна ў Вільні, у Выдавецтве беларусаў Літвы "Рунь", выйшла новая кніга Віктара "Прыкры крык". Чым не нагода паразмаўляць?*

## Дасье

**Імя:** Віктар Жыбуль

**Пол:** хіба ня бачна?

**Род заняткаў:** незаслужаны дзеяч вольнага мастацтва

**Узрост:** 22 гады

**Вага:** даўно ня ўзважваўся

**IQ:** мазгі таксама ня ўзважваў

**Адукацыя:** вышэйшая, філёляг

**Хобі:** фатаграфаваць, лазіць у Інтэрнэт, езьдзіць па краіне (у творчыя вандроўкі і так, "ад балды").

**Шкодныя звычкі:** а ў каго іх няма?

**Улюбёнае месца на зямлі:** адразу чамусьці згадваецца мая кватэра, а ў ёй ложак ды стол з кампутарам. Дарэчы, гэта й ёсьць мае дрэнныя звычкі.

## Я не паэта!

***"Студэнцкая Думка": Віктар, адкуль такое доўгае вызначэньне ў графе "Род заняткаў"? Здаецца, тое, чым ты займаесься, можна апісаць і карацей.***

**Віктар Жыбуль:** За апошнія гады тры словы "літаратар", "паэт" мне прыеліся. У галовах людзей яны адразу ствараюць пэўны вобраз. Калі ж потым апынецца, што я гэтаму вобразу зусім не адпавядаю, усе робяць вось такія вочы і... Карацей, для іх гэта як цаглінай па галаве...

***"CD": У дваццатым стагодзьдзі сталася ўжо добрым тонам спраўляць хаўтуры па паэзіі. Маўляў, заняпад, нічога цікавага, новага. Як ты да гэтага ставісься?***

**ВЖ:** Думка, што паэзія памірае, вынікае хутчэй за ўсё з таго, што, скажам, у нашай школьнай праграме яна прадстаўленая досыць аднабакова. У вучняў складаецца ўражаньне, што паэзія толькі й можа быць такой, як у падручніках. А там – старыя дзядзькі, якія альбо ўжо даўно памерлі, альбо знаходзяцца ў паважным узросьце. Не, я супраць іх нічога ня маю, гэта майстры слова і ўсё такое... Але сучаснаму маладому чалавеку варта ведаць, што ёсьць і альтэрнатыўныя творчыя тусоўкі, і паэзія зусім іншага кшталту.

## Экспэрыменты

***"CD": Падчас сваіх выступаў ты выкарыстоўваеш тэатральныя прыёмы, музычнае афармленьне. Адкуль такая цікавасьць да экспэрымэнтаў?***

**ВЖ:** Сынтэз мастацтваў – даволі распаўсюджаная ў наш час тэндэнцыя. Паэзія спалучаецца з жывапісам (тут можна згадаць Арцёма Кавалеўскага зь яго лягафармізмам, візуальную паэзію Зьміцера Вішнёва, Людку Сільнову). Што датычыцца сынтэзу паэзіі й музыкі, ён існуе ўжо невядома колькі ў выглядзе песьні. Паэзія, калі разабрацца, – гэта тая самая музыка. Ёсьць такія напрамкі паэзіі, якія разьлічаныя толькі на ўспрыманьне слыхам. Калі гэта напісаць на паперцы, нічога не атрымаецца. Гэта як бы антыпод той самай візуальнай паэзіі. Ёсьць фанэтычная мэдытатыўная паэзія, дзе словы ня маюць аніякага значэньня. Выступы такіх аўтараў нагадваюць нейкае шаманскае дзеяньне. Людзі ўпадаюць у транс ад такіх вершаў.


Здымак з калекцыі В. Жыбуля

***"CD": А ад тваіх упадаюць?***

**ВЖ:** Усяляк бывае. Калі прыгадваць мой перадапошні выступ – на фэсце "Сіні перац" – там мяне ўспрымалі ня горш за музычныя гурты. Выступ сапраўды меркаваўся як паэтычна-музычны праект, дзе акрамя мяне павінны былі ўдзельнічаць два музыкі: я страшным замагільным голасам чытаю вершы пра вампіраў, пра мерцьвякоў розных, Валодзя Банько грае на клявішах нешта такое арганнае, гатычнае, змрочнае, а Дзіма Тарасаў-Дабэрман (шумавік-пэркусіяніст) здабывае гукі з розных экзатычных рэчаў. Але так атрымалася, што на "Сінім перцы" клявішы падключыць нам не далі. Таму я чытаў вершы пад шумавуху: Дзіма барабаніў у мэталёвую скрыню малатком і нажніцамі. Прычым стараўся так, што зламаў мой малаток. Народ успрымаў проста выдатна. Калі я чытаў "Мерцьвяка", адна дзяўчына ажно цягнулася да сцэны, да мяне. Ну, я таксама да яе цягнуўся. Атрымалася даволі натуральна.

Да выкананьня вершаў я наогул стаўлюся вельмі адказна. Напрыклад, верш "Гліст" – наогул эксклюзіўны. Пачаткова мы разам з гуртом "Правакацыя" зрабілі такую рэп-коравую кампазыцыю. Пасьля, калі выступаць з музыкай ужо не было магчымасьці, я пачаў проста так чытаць. Леанід Нарушэвіч, гітарыст гурта "Князь Мышкін" і арганізатар таго самага "Сіняга перцу", увогуле называе "Гліста" клясыкай. Вось, давялося яго і ў кнігу ўставіць. Хай будзе!

***"CD": Наагул, якую музыку ты слухаеш?***

**ВЖ:** Розную. Мне падабаецца і гатычны мэтал, і рэгі, і панк-рок... Усё залежыць ад настрою. Што датычыцца беларускай музыкі, тут я магу назваць такіх непадобных адно да аднаго выканаўцаў, што яны проста пакрыўдзяцца, пабачыўшы сябе побач. Мне падабаюцца гурты, якія спрабуюць адысьці ад акадэмізму.

***"CD": Акадэмізму? А ў паэзіі ёсьць акадэмізм?***

**ВЖ:** Паўсюль ёсьць. Але ўсё ўмоўна. Цяжка сфармуляваць, што гэта такое... Напэўна, калі для нейкіх літаратараў, музыкаў ці мастакоў на першым месцы стаіць традыцыя. Для мяне ж слова "традыцыя" мае больш шырокі сэнс: літаратурная традыцыя заключаецца менавіта ў самой ідэі пісьма. Людзі выказваліся ў пісьмовай форме тысячы гадоў таму, тое самае


Фота Т. Конюх

яны робяць і цяпер. Форма, безумоўна, зьмянілася. І гэта натуральна! Жыцьцё йдзе, мяняецца сьветапогляд, склад мысьленьня.

## Жыбуль і мода

***"CD": Віктар, за табой стала замацаваўся імідж "эпатажнае зоркі". Ты адмыслова ствараеш вакол сябе такую аўру, ці гэта патрабаваньне часу, моды?***

***ВЖ:*** Сам я за модай ніколі не ганяўся. Калі зь мяне зрабілі зорку – мне ад гэтага ні холадна, ні горача. Грошай са сваіх выступаў я не атрымліваю. Пачастуюць хіба чым-небудзь – торцікам, гарбатай...

***"CD": Але адкуль, як любяць выражацца літаратуразнаўцы-акадэмісты, такі своеасаблівы сьветапогляд?***

***ВЖ:*** Як яны ж заўсёды кажуць, з асяродзьдзя. З таго асяродку, у якім я жыву: Беларусь, горад Менск. Па-свойму ўплывае й тое, што я чую штодня па радыё, бачу па тэлевізіі, чытаю ў газэтах.


Здымак з калекцыі В. Жыбуля

## Жыцьцё задам наперад

***"CD": Я вельмі добра сабе ўсьведамляю, што размаўляю з рэдкім аўтарам. Маю на ўвазе твае паліндромныя паэмы. Ці адчуваеш ты сябе тут наватарам?***

***ВЖ:*** Наватарам я сябе назваць не магу. Я хутчэй пашыральнік гэтае традыцыі. Першыя вядомыя паліндромы датуюцца яшчэ III стагодзьдзем нашай эры. Яны пісаліся на лаціне, на грэцкай. Зараз у той жа Расеі гэты рух даволі пашыраны. Існуюць адмысловыя выданьні: часопіс "Амфирифма", газэта "Кубики букв".

***"CD": Гэта ж колькі трэба мець цярпеньня, каб пісаць паліндромныя паэмы! Начэй, відаць, ня сьпіш...***

***ВЖ:*** Ды не, яны паступова нараджаюцца. Часам я сутыкаюся з "падазронымі" словамі, якія мне карціць прачытаць ззаду наперад. І калі бачу, што яны пры гэтым набываюць якісь новы сэнс, – зьбіраю. Гэтак склалася мая першая паліндромная паэма "Рогі гор". Пачатковы варыянт я напісаў, калі яшчэ ў школе вучыўся. Потым апрацаваў, і атрымалася тое, што цяпер ёсьць у зборніку "Тазік беларускі". А пазьней выйшла яшчэ некалькі паэмаў, нават, я лічу, лепшых за "Рогі". Гэта "Кацёл клёцак" і "Палігон ног і лап". Першая зь іх – гастранамічная, героі толькі й робяць, што ядуць. Вядома, без наступстваў не абышлося. Асабліва пацярпеў мурын Гена:

*А негр Гена –*
*Ну, д'ябал – о, жолаб-ядун!*
*Купку пхаў: ах, пук-пук!*
*Негру – пурген!*
*Ха, газ гізуе – у зігзагах*
*каш і кішак!*
*І на, какані!*
*І кал – у кулакі!*
*Каша какашак!*

А што датычыцца "Палігону ног і лап" – гэта паэма на ваенную тэматыку.

## Дзеля чаго ўсё?

***"CD": У тваіх творах адчуваецца значны элемэнт сьцёбу...***

***ВЖ:*** Што ж, часам і сьцёб патрэбны. Калі я нешта пішу, то не задумваюся, што з гэтага атрымаецца, сьцёбная будзе рэч ці не. А атрымліваецца найчасьцей якраз сьцёбная. Для мяне сьцёб не асноўная мэта. Некаторыя сталыя пісьменьнікі называюць мяне гумарыстам, я ж усяляк адпіраюся.Так, гумар у маіх вершах прысутнічае, але я не лічу, што гэта галоўнае. Проста адзін са складнікаў выбуховае сумесі.

***"CD": А што ж тады галоўнае? Дзеля чаго ты ўсё гэта робіш?***

***ВЖ:*** Я пішу вершы, калі не магу іх не напісаць. Калі нешта ўва мне нараджаецца – трэба тое нешта выкласьці. Нават калі я й ня буду гэта ні друкаваць, ні чытаць.

***"CD": Віктар, што для цябе лягчэй – выступаць ці пісаць для друку?***

***ВЖ:*** Па мне дык лепей выступаць. Вось выйшла кніжка, і цяпер чухай патыліцу, як яе распаўсюджваць.







Здымак з калекцыі В. Жыбуля

## Пра кнігу

***"CD": Ну вось, мы лягічна падышлі да тваёй новай кнігі. Распавядзі, калі ласка, пра яе.***

***ВЖ:*** "Прыкры крык" – мая трэцяя кнага. Першая – была нават ня кніжка, а хутчэй "друкапіс". Гадоў пяць таму "Бум-Бам-Літ" выдаваў цэлую сэрыю друкапісаў. У 1996-м выйшаў і мой зборнік пад назвай "Калі ў хаце дыверсант". Пісаліся кнігі пераважна ад рукі, самі ж мы іх і размалёўвалі, а потым памнажалі ксэраксавым шляхам. "Дыверсанта" я болей не распаўсюджваю – у мяне няма бясплатнага ксэракса. Другая кніжка выйшла ў 97-м дзякуючы фонду маладых літаратараў "Пегасавы крылы". Назву мела "Рогі гор". Наклад быў маленькі, таму набыць яе, відаць, ужо нельга.

***"CD": Што ўвайшло ў "Прыкры крык"?***

***ВЖ:*** Ох, што туды ўвайшло! Тут напісана – "усё самае пачварнае й брыдкае са створанага аўтарам за сем гадоў біцьця галавой аб сьцяну жыцьцёвай непрадказальнасьці". Сёе-тое ўжо друкавалася. У "Першацьвеце", напрыклад, быў "Мой кукіш" – верш, які некаторыя людзі называюць праграмным.

***"CD": А што папярэдне трэба ведаць, каб узяць у рукі "Прыкры крык" – і не памерці ад жаху?***

***ВЖ:*** Мне й самому бывае няёмка тую кнігу паказваць, асабліва дзяўчатам. Насамрэч я даволі часта бываю сур'ёзным – жыцьцё вымушае. І чым больш яно вымушае, тым больш узьнікае патрэба нейк адарвацца, вытварыць нешта такое эпатажнае. Але эпатаж зноўтакі для мяне ня мэта. Атрымліваецца, што я такім чынам адрываюся. Некаторыя просяць даць пачытаць штосьці. Што мне застаецца? Адна дзяўчына нядаўна пачытала... Я ў яе і пытаюся: "Ну як, не занадта жудасна?". А яна: "Я чакала, што будзе страшней". Не праблема! У выдавецтве "Мастацкая літаратура" ляжыць яшчэ адна мая кніга, "Магіла гарбатага". Можа, яна якраз і будзе больш жудасная. І ў той жа час яна больш сур'ёзная, філязофская. Гэта своеасаблівая алегорыя чалавецтва, якое заблыталася ў сваіх уласных памылках. Гарбатага, як кажуць, магіла выправіць.

## Пра народную любоў (плынь сьвядомасьці)

Спачатку ў мяне быў намер напхаць у "Прыкры крык" усяго самага жудаснага, але потым вырашыў, што гэтага дабра я напхаю толькі ў трэцюю частку, "Вампірыстыка", першую ж і другую зраблю больш разнастайнымі. Напрыклад, у першай частцы – так званыя анарха-пацыфісцкія вершы. Ідэі... *(пафасна)* пратэст супраць мілітарызацыі грамадзтва, разьвянчаньне розных ідэалаў, культаў. Так атрымліваецца, што ў некаторых вершах прысутнічае нават штосьці дзіцячае. Рэшткі дзіцячага сьветапогляду – у вершы "Вафопік":

*У мяне завёўся клопік.*
*Я назваў яго Вафопік.*
*Ён любіў насьвістваць пузам*
*Гімн Савецкага Саюза.*
*А я гімнаў не любіў –*
*і Вафопіка прыбіў.*
*Паглядзіце сабе ў супік –*
*там плыве ягоны трупік.*

Само слова "вафопік" я прыдумаў, калі мне было тры гады.



Фота Т. Конюх

І вось праз гэтулькі часу вырашыў яго скарыстаць.

Што да другой часткі кнігі – камусьці гэтыя вершы пададуцца занадта гідкімі. Мой сябар Альгерд Бахарэвіч неяк паказаў "Прыкры крык" сваім бацькам. І трэба ж было ім адгарнуць кнігу якраз на вершы "Я люблю здаваць аналіз калу…" Што тут усчалося!

Дарэчы, пра "Аналіз". Неяк напрыканцы мінулага году я паспрабаваў пачытаць гэты верш на вечарыне маладых літаратараў. Трэба было гэта бачыць! За столікам на сцэне сядзеў вядучы, паэт Навум Гальпяровіч. Я пачаў зь вершаў пра кукіш, пра міністра абароны *("З рагаткі я прыцэліўся ў варону, а трапіў у Міністра Абароны…")*, пра гліста, пра мерцьвяка. Звычайны набор. Яны мяне ўжо самога дасталі, гэтыя вершы, але калі я выходжу на сцэну, часта з залі чуюцца крыкі, кшталту "Гліста" давай!" Ну, думаю, гліста дык гліста! А чытаючы пра аналіз калу, я дастаў яшчэ й элемэнт рэквізыту – скрыню экзатычных такіх памераў, загарнутую ў газэту. Трос ёю перад мікрафонам, а ўнутры нешта вельмі гучна грымела. Мне было прыкольна глядзець на рэакцыю залі: хто сядзіць абсалютна каменны, хто заходзіцца ад сьмеху, хто крывіцца, носам круціць. А пасьля выступу мае сябры падышлі да мяне й сказалі: "Каб ты бачыў твар Гальпяровіча!" Відаць, ён быў дужа ўражаны.

А крыху раней я выступаў на Дзень актора ў Доме ветэранаў. Там была, так бы мовіць, афіцыйная эліта грамадзтва. Мы, разам са Зьміцерам Вішнёвым ды Сержуком Мінскевічам, трапілі туды досыць выпадкова. І ў агульны кантэкст мы трошкі не ўпісаліся. Вішнёва яшчэ неяк цярпелі, але калі выйшаў я зь вершам "Мярцьвяк", нейкая цётка сталага веку падбегла да сцэны і з крыкам "Это не может больше продолжаться!" паваліла мікрафон. Здаецца, я ўжо казаў у адным зь інтэрвію, калі чытача ці слухача апаноўвае ад маіх вершаў шок, значыць, яны гэта проста заслужылі.

***"CD": І апошняе. Падагрэтым тваімі страшнымі гісторыямі чытачам, напэўна, цікава будзе даведацца, калі адбудзецца прэзэнтацыя "Прыкрага крыку" і дзе можна прачытаць твае новыя вершы?***

***ВЖ:*** Прэзэнтацыя адбудзецца ў красавіку ў Беларускім калегіюме. Што да новых вершаў, Дзіма Тарасаў, пра якога я ўжо згадваў, выдае ў Сьветлагорску самвыдатаўскі часопіс "Падзёж ската". У трэцім нумары яго й будуць мае вершы.

*Вось і ўсё. Я дзякую Віктару і азіраюся: сакавіты Жыбулеўскі бас сабраў у рэдакцыйнай варэльні, дзе мы зь Віктарам пілі каву, ці ня ўсіх супрацоўнікаў. З жалем выключаю дыктафон. Заўважыўшы мой рух, Віктар робіць вялікія вочы: "Дык яно запісвае? Можа, адматаць – я што-небудзь талковае скажу?" У адказ удзячныя слухачы пачынаюць дружна скандаваць: "Вершаў! Вершаў!" "Ну, тады я што-небудзь з новенькага, недрукаванага…" – Віктар цягнецца да сваёй запаветнае тэчкі.*

* * *

*Я сяду за пульт кіраваньня Галяктыкай*
*і адсяку сабе рукі.*
*Няхай усе ведаюць,*
*што такое Свабода!*

* * *

*Я слухаў музыку,*
*прыклаўшы вуха*
*да слоіка,*
*у які патрапіла муха.*
*А потым муха*
*выскачыла й паляцела.*
*А слоік застаўся –*
*пустое,*
*халоднае,*
*бяздушнае*
*цела.*

***САБАКА ПАЎЛАВА***

*Няшчасны мой сябра чацьвераногі,*
*ня сьнілі пакутаў тваіх нават ёгі!*
*Калісьці даўно цябе клікалі Рэксам,*
*цяпер на табе вывучаюць рэфлексы,*
*і ты, небарака, ня бачыш свабоды.*
*Пад скуру табе правялі электроды,*
*да скроняў прыклалі халодныя льдзінкі,*
*у рэбры ўпаялі стальныя пласьцінкі,*
*жалезам скавалі сабачыя рукі*
*ды прапусьцілі праз лоб ультрагукі.*
*Мазгі прасьвяцілі бліскучым рэнтгенам.*
*Цьвікі ў галаве – гэта так афігенна!*
*Матляецца побач кавалак вяндліны,*
*залозы твае выпрацоўваюць сьліну...*
*Цябе будуць помніць і дзеці, і ўнукі.*
*Цярпі, мая радасьць, ахвяра навукі!*




*Гутарыў Inconnu*





# "Вольныя танцы: alternatyva_by"

Лэйбл Беларуская Музычная Альтэрнатыва *(БМАgroup)* у красавіку выдае рэліз **"Вольныя танцы: alternatyva_by"**.

Гэта ўжо трэці па ліку зборнік з сэрыі "Вольныя танцы". У ім будуць прадстаўленыя беларускамоўныя гурты, якія выконваюць альтэрнатыўную музыку (рок, пост-гранж, нойз і г.д.). Асноўная мэта кампіляцыі – сабраць на адной кружэлцы як патэнцыйныя, так і ўжо стоадсоткавыя гіты. Першыя два зборнікі – "Вольныя танцы: Слухай сваё!" і "Вольныя танцы: Новая альтэрнатыва" – паказалі, што слухачы маюць вялікую цікавасьць да айчыннай альтэрнатыўнай музыкі: дыскі разышліся накладам больш за тры тысячы асобнікаў. Чвэрць накладу была распаўсюджаная ў Эўропе й Амэрыцы. Сайт "Вольныя танцы", дзе выстаўленыя кампазыцыі з альбомаў у фармаце *mp3,* – адзін з самых папулярных у *by.net*. Прэзэнтацыя альбому "Вольныя танцы: Новая альтэрнатыва", якая праходзіла ў красавіку 2000 г. у к/з "Мінск", сабрала больш за 1.000 гледачоў і сталася адной з самых масавых акцыяў беларускай рок-сцэны ў мінулым годзе.

У кампіляцыю **"Вольныя танцы: alternatyva_by"** увойдуць кампазыцыі такіх папулярных гуртоў, як **"Новае Неба"**, **"Крама"**, **"Уліс"**, **"Нейро Дюбель"**, **"Н.Р.М."**, **"Крыві"**, **"Палац"**, маладых, але ўжо даволі вядомых камандаў **"Безь білета"**, **Postscriptum**, **Happy Face**, **Long Play**, **Zet**, гуртоў з рэгіёнаў – **"Айша"** (Гародня), **"Вруцэлета"** (Гомель), **"Зелень дорог"** (Віцебск), **"Акруга Вольнага Мастацтва"** (Магілеў), а таксама трэкі з альбому **"Я нарадзіўся тут"**.

**Першапачатковы наклад CD "Вольныя танцы: alternatyva_by" – 2.000, аўдыёкасэт – 3.000 асобнікаў. Дыстрыб'юцыя будзе праводзіцца сумесна з кампаніяй *Bulba records*.**

Кантакты:
а/с 5, 220085, Менск, БЕЛАРУСЬ.
Пэйджэр: 211-85-85, аб. "БМА"




**Толькі для чытачоў "CD"!!!**

**УВАГА!**

Выразаўшы гэты купон і зьвярнуўшыся да БМА,
Вы атрымаеце магчымасьць набыць кампакт
**"Вольныя танцы: alternatyva_by"**
са зьніжкай
**20%.**

**[ВОЛЬНЫЯ] [Т@NЦЫ]™**

**БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА**

Вітаўт Мартыненка




## "Уліс", "Падарожжа"
### Кайчэг, 2000

Калі на паседжаньні Менскага клюбу філяфаністых зьявіўся гэты дыск, старыя мэляманы са зьдзіўленьнем пазнавалі бліскучую беларускую рок-зорку пачатку 90-х: "О, гурт яшчэ жывы? Ці "The Best" нехта клепануў?"

Вось што значыць не пільнаваць прэсу. А між тым яшчэ ўвосень 1994 году Слава Корань даў сымптаматычнае інтэрвію газэце "Беларуская маладзёжная" пад назвай "Уліс" быў, ёсьць, будзе" (такія вось нашчадкі Караткевіча). Маўляў, ні адыход басіста Краўчанкі (які напісаў несьмяротны "Пляц Францыска"), ні пераход у "Краму" бубнача С.Кныша (які яшчэ ў "Бондзе" пісаў тэксты), ні цэлы каскад зьменаў вакалістаў (Андрэй Патрэй, Алег Тумашоў), ні нават ад'езд у ЗША Фэлікса Аксёнцава нічога ня зьменяць, пакуль у гурце ёсьць Слава Корань. Бліскучы гітарыст, ён узяў на сябе ролю і вакаліста (ня ўсімі, дарэчы, адэкватна сустрэтую), і аўтара тэкстаў.

Па шчырасьці, ужо назвы альбомаў "Блуканьне", "Life,1996", "Ратуйце вашыя душы" шмат што гавораць пра сутнасьць таго крытычнага для гурта пэрыяду. "Уліс", наша сталая супэрзорка, маючы за плячыма і прэстыжныя гастрольныя маршруты (Польшча, Эстонія, Нямеччына, Вялікабрытанія), і салідную дыскаграфію (запісы на фірмах "Muza", "Polskie Nagrania", "Мелодия"), вымушаны быў ізноў падацца на пошукі свайго месца ў рокжыцьці. І тлумачыцца гэта ня толькі жаданьнем стабілізаваць склад гурта, але й імкненьнем вызначыцца стылістычна: ці заходзіць вернасьць new-wave, у якой дасягнуты прыкметны эўрапейскі прэстыж, ці кінуцца ў вір новых модных плыняў?.. Альбомы пераходнага пэрыяду не былі тут яскрава ілюстратыўнымі – кожны зь іх нібыта ўяўляў сабою цалкам новы праект.

І ўсё ж... пераходны пэрыяд. Да чаго?

А да таго ўнікальнага сымбіёзу, які вывеў "Уліс" у лідэры найноўшай музычнай плыні indie-rock. Плыні, якая ўвасабляе досьвед новай хвалі, гард-н-гэві, панку і г.д.

Пэўныя напрацоўкі адчуваліся ўжо і ў альбоме "Ратуйце вашыя душы", і ў працы музыкаў "Уліса" з праектам Касі Камоцкай "Новае неба" (альбом "Цэпэліны"), але заўважылі іх менавіта пасьля выхаду "Падарожжа".

Стылістычнай візытоўкай можна назваць загалоўны твор – васьміхвілінную кампазыцыю, якая вокамгненна прасьлізгвае ў сьвядомасьці слухача, пакідаючы толькі пачуцьцё абуджэньня пасьля трансу. Шчыльны саўнд трыё (гітара й сьпеў Славы Кораня, бас Віктара Самарукава ды бубны Аляксандра Быкава) ствараюць незабыўнае, пераканаўчае ўражаньне. Да таго ж – небанальныя тэксты ("У хаце стаяў", "Пажаданьне старэйшага брата", "Другія прыйдуць", "Жыві так"), якія адэкватна ўпісваюцца ў інтрыгуючы вобраз беларускай рок-легенды "Уліс".

Зрэшты, у параўнаньні з былым "Улісам" – болей плюсаў: наша рок-тусоўка ўпершыню атрымала музыку, якую проста хочацца сядзець і слухаць. Слухаць неверагодныя пераплёценьні гітарных пасажаў, гармонію зладжанай рытм-сэкцыі, новыя мэлядычныя знаходкі.

З дванаццаці трэкаў альбому толькі адзін ("Калядная") не належыць пяру В.Кораня. Але ж якую апрацоўку ён зрабіў!

Выданьне ўключае і два бонусы – новыя вэрсіі "Краіны ў кратах" (С.Краўчанкі, К.Шэвандо і Ф.Аксёнцава) ды "Краіны доўгай белай хмары" (В.Кораня і Ф.Аксёнцава) у рытмах індзі-рока.





Вітаўт Мартыненка




## "Легенды Вялікага Княства" (розныя выканаўцы)
### BMAgroup

Што ні кажы, а апэтыты "BMAgroup" разрастаюцца не на жарт: то баяліся нават экстра-мэга-попгіты на кампактах тыражаваць (маўляў, дарагія тэхналёгіі, слабая самапавага беларускай публікі, нізкая самаакупнасьць), а паспрабавалі парачку сваіх "Вольных танцаў" – і пачалі экспэрымэнтаваць. То возьмуцца за нераскручаныя канцэптуальныя рок-альбомы ("Да неба!" гурта "Безь білета"), то ў опэрную клясыку кінуцца ("Ластаўкі ў стрэсе" Міхася Забэйды-Суміцкага)... А тут вось ужо і ў беларускае музычнае сярэднявечча палезьлі, ды як!

Калі 95% усяго, што прадаецца ў нашых крамах, можна аднесьці да прадуктаў занадта плённага захапленьня ўсходнімі левакамі (гэта датычыць і айчынных, і замежных выканаўцаў), дык акурат гэтым сваім выданьнем "BMAgroup" выявіла прыкметную схільнасьць апынуцца ў прэстыжнай меншасьці (5%). Дый сапраўды, такога дыхтоўнага сувэніра, толькі што адціснутага на эўрапейскіх заводах "Sony", фанат беларускай музыкі яшчэ не трымаў у руках. Бліскучая паліграфія вокладкі, элегантныя галяндзкія скрынкі паводле амэрыканскай ліцэнзіі, празрысты трэй, скрозь які прасьвечвае гэтак дарагая сэрцу Пагоня, найвышэйшыя тэхналёгіі – ды пасьля ўсяго гэтага хай там хоць скрыгат каналізацыі будзе запісаны, усё адно мімаволі купіш такі сувэнір. Але ж там – Музыка!

Славуты "Полацкі сшытак" – унікальны помнік беларускай сьвецкай музыкі 1630-50 гадоў. Уяўляеце сабе: калі маскалі яшчэ па дрэвах лазілі, у нашых замках ды палацах ладзілі крутыя дансынгі, зь якіх і дайшоў да нас гэты "Greatest hits". Раней яго можна было пачуць толькі на закрытых канцэртах гуртоў кшталту "Кантабіле", "Гульня ў дождж", ды яшчэ камэрны хор "Віват" запісаў пару фрагмэнтаў на LP. Але толькі самыя прадзьвінутыя вышуквалі за кардонам паўнафарматны альбом "Piesni, tance, padwany", дзе "Полацкі сшытак" гучаў у выкананьні знакамітага аркестру "Fistulatores et tubicinatores Varsovienses". І вось самі беларусы ўзяліся за справу, прапанаваўшы для пачатку ў праект "Легенды Вялікага Княства" два фрагмэнты "Полацкага сшытка" ў выкананьні ансамблю "Контраданс".

Зрэшты, гэтага яўна малавата: нават палякі на сваім дыску ("Muza", 1972) выдалі 21 з 60 вядомых запісаў. Але гэта ўжо спэцыфіка праекту: трэба было й іншыя вялікакняскія легенды распавесьці. А тут нельга было не ўлічыць ні прапановаў камэрнага хору "Унія", ні бардафальклярыста А.Галіча, ні арыгінальных апрацовак старадаўняй музыкі ад гуртоў "Стары Ольса", "Браўнсбэрг Таблатур", "Вялікае Княства" і г.д.

Што цікава, у гэтым бліскучым прадукце фірмы "BMAgroup", які нібыта адрасаваны толькі абазнаным адмыслоўцам беларускай культуры сярэднявечча, знойдуць духовую патолю і фанаты старога добрага беларускага року. Памятаеце славутага гітарыста гурта "Мроя" Уладзю Давыдоўскага? Ягоную гітару й сьпеў вы пачуеце цяпер у ягоных жа кампазыцыях (словы й музыка) "Сьвіцязь", "Каралеўна".

А што цяпер робіць заснавальнік гурта "Камэлот" Зьміцер Сідаровіч? Ягоныя творы таксама ўвайшлі ў "Легенды Вялікага Княства", як і сьпевы Л.Сімаковіч, А.Пузыні, А.Журы ды іншых беларускіх музыкаў розных плыняў – ад камэрных выканаўцаў да рокераў.

Сяргей Кароль

# "Грамадзтва шукальнікаў хабару"

*Штодня мы даведваемся з прэсы пра розныя кшталты ўдзелу дзяржавы ў эканамічным жыцьці. Ільготны крэдыт, субсыдыі заводам, датацыі калгасам, падатак на заробкі, ПДВ... Здавалася б, высакародны клопат пра наш агульны дабрабыт. Аднак, як падказвае нам эканамічнае мысьленьне, амаль ува ўсіх вышэйазначаных выпадках такая дзейнасьць ураду вядзе не толькі да пераразмеркаваньня рэсурсаў, але й да іх зьнішчэньня. У асаблівых жа, экстрэмальных выпадках яна мае вынікам узьнікненьне т.зв. "грамадзтва шукальнікаў хабару", дзе працэс зьнішчэньня агульнага дабрабыту набывае пагрозьлівыя тэмпы.*

## Гатоўнасьць плаціць і гатоўнасьць прадаць

Уявім сабе рынак аранжыкаў. Попыт і прапанова на іх сышліся на 50 цэнтах за штуку. Гэтая лічба сьведчыць, што за 50 цэнтаў усе спажыўцы здольныя купіць роўна гэтулькі аранжыкаў, колькі фэрмэры ў стане вырасьціць. Але яна ня кажа нам пра жаданьні асобных спажыўцоў і магчымасьці асобных вытворцаў. Зірнем на пакупнікоў. Хто-ніхто зь іх – у прыватнасьці, жонка аўтара гэтых радкоў – вельмі любіць аранжыкі. Такія людзі гатовыя заплаціць і ўсе 5 даляраў за штуку. Гэтая лічба, 5 даляраў, завецца "гатоўнасьць плаціць" і вызначаецца выключна асабістым густам і матэрыяльнымі магчымасьцямі. Іншыя пакупнікі прагнуць аранжыкаў меней і гатовыя заплаціць толькі 1 бакс. Нехта хоча аранжык за 75 цэнтаў, сёй-той – за 50, а шмат для каго гатоўнасьць заплаціць спыняецца на 20 цэнтах. Выдаткі на тое, каб вырасьціць аранжык на поўдні Флёрыды, складаюць, скажам, 10 цэнтаў. Такая ў тамтэйшых фэрмэраў і мінімальная "гатоўнасьць прадаць": яна роўная кошту, то бок 10 цэнтам. Кошт вытворчасьці аранжыка на поўначы Флёрыды вышэйшы – 25 цэнтаў. Вырасьціць аранжык фэрмэрам са штату Нью-Ёрк абыдзецца ў 5 даляраў, бо там халодна. І вось аднойчы раніцою ўсе гэтыя пэрсанажы сустракаюцца на сельгасбіржы ў Чыкага і пачынаюць гандляваць. Аматары аранжыкаў прапаноўваюць па 5 даляраў за штуку, але да такога вар'яцтва не даходзіць, бо іншыя едакі гатовыя плаціць толькі адзін, палову ці наагул чвэрць даляра. Запалёныя фэрмэры з поўдню Флёрыды хочуць здаць тону аранжыкаў па 10 цэнтаў, але й да гэтага не даходзіць, бо нью-ёрцкія аранжыкі ня могуць каштаваць менш за пяць баксаў. Гандаль доўжыцца да тае пары, покуль не ўсталюецца цана, што адлюстроўвала б спалучэньне жаданьняў і магчымасьцяў усіх удзельнікаў. То бок тыя самыя 50 цэнтаў. Той, хто гатовы заплаціць усяго 20 цэнтаў, нічога не купляе. Дарма прыехалі й нью-ёркцы – іх аранжыкі занадта дарагія для гэтага рынку. Аднак тыя, чыя гатоўнасьць купіць перавышала 50 цэнтаў, застаюцца ў абсалютным выйгрышы! Сярэдняй рукі аранжыкавыя фанаты, што гатовыя былі аддаць даляр, ухапілі жаданы прадукт за паўцаны, а такія, як жонка вашага карэспандэнта, – наагул у дзесяць разоў таньней. Усе гэтыя спажыўцы зэканомілі сродкі, набыўшы неабходную рэч за меншыя грошы, чым маглі сабе дазволіць. Іхні дабрабыт ад гэтага нязьменна палепшыцца – гэтая частка дабрабыту нацыі называецца спажывецкім лішкам. Задаволеныя й флярыдзкія фэрмэры – тыя, што з поўдню, прадалі тавар упяцёра, чымся маглі б, і нават паўночныя флярыдцы ўзялі ўдвая болей за затрачаны кошт. Нацыянальны дабрабыт ізноў паляпшаецца – гэтым разам за кошт лішку для вытворцаў. Дый ці магчымая іншая камбінацыя? Не, калі не мяняюцца густы й рэсурсы ўдзельнікаў рынку. Гэта самы рынак распарадзіцца рэсурсамі найбольш эфэктыўна. Ён спыніцца на кошце й колькасьці, пры якіх і спажывецкі, і вытворчы лішак максымальныя. Тыя, хто гатовы плаціць больш, зэканомілі, тыя, хто мог узяць меней, таксама засталіся ў выйгрышы. Тыя ж, для каго дадзены кошт азначаў бы страту дабрабыту, яго не згубілі, папросту пакінуўшы рынак. Нехта выйграў, але ніхто не прайграў – эканамічны цуд, дый годзе!

## І тут зьяўляецца дзяржаўны чыноўнік

З высакароднай мэтай сабраць сродкі на агульныя патрэбы чыноўнік і паліцэйскі абкладаюць падаткам вытворцаў аранжыкаў. Хто плаціць падатак? Ідыёцкае пытаньне – канешне ж, фэрмэры. Зусім не! Зойдзем на чыкаскую біржу яшчэ раз. Дапусьцім, што там за дзень прадавалі мільён тонаў аранжыкаў па цане 50 цэнтаў. З-за падатку замест 50 цэнтаў фэрмэр атрымае толькі 45. Але за 45 фэрмэры прадукавалі б меней аранжыкаў – не мільён тонаў, а ўсяго 700 тысяч, бо частка зь іх не вытрымлівае гэтае цаны. Цікавая рэч – колькасьць зьнізілася, як калі б цана была меней, але цана якраз меней ня стала! Прапанова ж зьнізілася, што непазьбежна прывяло да росту цаны. Нейкі кароткі час рынак вагаецца, потым прыходзіць да новае раўнавагі – да прыкладу, 52 цэнты і 800 тысячаў тон. Замест аднае цаны й аднае колькасьці мы бачым дзьве: пакупнікі плоцяць 52 цэнты, зь якіх толькі каля 48-і даходзіць да вытворцаў.

Такім чынам, па законе попыту й прапановы гандлярскі падатак сплочваюць і пакупнік, і гандляр. Тое самае, дарэчы, адбываецца і з падаткам на пакупніка. Любы падатак – на вытворцу, спажыўца, заробак – дзеляць абодва бакі. Скарачаецца і лішак спажыўца, і лішак вытворцы. Куды ідзе розьніца? Частка, безумоўна, перападае дзяржаве, то бок дабротаў у грамадзтва, здавалася б, ня менее. На грошы, атрыманыя ад вытворцаў і спажыўцоў, урад купляе танкі й будуе стадыён. Аднак гэта ня ўсё. З-за таго, што рынак выйшаў з раўнавагі і натуральнае цэнаўтварэньне было парушанае, частка адабраных пад выглядам падатку лішкаў прападае дарма – як мёртвая страта. Чаму? Таму што фэрмэры прадукуюць 800 тысяч тонаў аранжыкаў, як калі б тыя каштавалі 47 цэнтаў. Але яны каштуюць 52. За 52 цэнты ў нармалёвых умовах фэрмэры паставілі б, а вытворцы купілі б больш за мільён тонаў аранжыкаў. Усё гэта – прамая страта эфэктыўнасьці. Гэтая частка нацыянальнага багацьця – чорны трохкутнік на нашай дыяграме – папросту згарэла. І калі нават вам не шкада вытворцаў ды спажыўцоў, таму што вам дарагая абароназдольнасьць краіны і вы любіце футбол – вам павінна быць шкада чорнага трохкутніка. Гэтыя рэсурсы зьніклі.



Той самы вынік маюць і іншыя формы дзяржаўнага рэгуляваньня. Парушаючы натуральнае разьмеркаваньне лішкаў, яны вядуць да мёртвых стратаў.

## Між падлогай і стольлю. Прамое цэнаўтварэньне

Калі падаткі неабходныя дзеля важных дзяржаўных патрэбаў, то такая эканамічная палітыка, як прамое абмежаваньне рынкавых цэнаў, ня мае наагул ніякага апраўданьня. Тут існуюць дзьве крайнасьці – столь і падлога цаны *(price ceiling and price floor)*.

Прыклад амэрыканскі – арэнда кватэраў. Кошт жыцьця ў Нью-Ёрку высокі – маленькая кватэра можа "вылецець" у паўтары тысячы даляраў на месяц. Сыходзячы з




## Вынікі

***Вольны рынак:***
***Кошт: $0,50***
***Колькасьць: 1.000.000***
***Даход для дзяржавы: 0***
***Страта фэрмэраў: 0***
***Страта пакупнікоў: 0***

***Рынак пасьля падатку:***
***Кошт: $0,52***
***Колькасьць: 800.000***
***Даход для дзяржавы: $0,05x800.000=$40.000***
***які складаецца са:***
***страты фэрмэраў: ($0,52-$0,50)x800.000=$16.000***
***страты пакупнікоў: ($0,50-$0,47)x800.000=$24.000***
***Мёртвая страта: (($0,50-$0,47)x200.000)/2+(($0,52-$0,50)x200.000)/2=5.000***

***Такім чынам, на кожныя 40.000, сабраныя ў дзяржаўны бюджэт, грамадзтва ўвогуле губляе 5.000 даляраў.***

клопату аб гараджанах, мэрыя ўводзіць столь цаны – тысячу даляраў. Эфэкт першы – шмат каго з новых кватэраздымальнікаў, што хочуць далучыцца да бурлівай культуры Манхэтану, раней стрымлівала вар'яцкая арэндная плата. Наплыў новых здымальнікаў на тую ж колькасьць квадратных футаў выклікае неабходнасьць новага ўказу – рэглямэнтацыі жыхароў. Прабіцца ў нью-ёрцкую кватэру становіцца цяжка – для гэтага патрэбна згода дамавое рады. "Не!" – кажуць у дамкаме студэнтам (зь імі шмат турботаў), сем'ям зь дзецьмі (малыя крычаць) і старэчам (слухай пасьля выцьцё сырэнаў "хуткай дапамогі"!). Эфэкт другі пачынае праяўляцца праз пару гадоў. За паўтары тысячы ў месяц домаўладальнікі падтрымлівалі дамы ў парадку. За тысячу – на гэта не стае сродкаў. Дамы прыходзяць у занепад і ў рэшце рэшт зачыняюцца. Жыхароў высяляюць. Спусташаюцца цэлыя раёны. Такія можна бачыць у Паўднёвым Бронксе – з гелікаптэра адкрываецца жахлівае відовішча на пацямнелыя цагляныя сьцены, чорныя праёмы мёртвых вокнаў, пустыя вуліцы. У гэтых дамах некалі жылі бедныя людзі. Каб абараніць іх ад свавольства домаўладальнікаў, мэрыя ўвяла столь цаны. Цяпер там ніхто не жыве. Ёсьць два спосабы разбураць горад: бамбёжка й столь арэнднае платы.

Прыклад эўрапейскі. Там на сельгаспрадукцыю, наадварот, уведзеная цэнавая падлога.



Грошы

Цана ня можа ўпасьці ніжэй пэўнага роўню, і робіцца гэта дзеля падтрыманьня дабрабыту фэрмэраў. Але за большую цану фэрмэры, як рацыянальныя людзі, прадукуюць болей тавараў. Першы ўказ, пра падтрыманьне цэнаў, тут жа нараджае другі – пра набыцьцё ўрадам лішку харчоў. Страта трайная: лішак спажыўцоў перададзены вытворцам, эканоміка церпіць мёртвую страту, а падаткаплатнікі аплочваюць пакупку лішкаў зерня, якія ў лепшым выпадку здаюць у гуманітарную дапамогу. У горшым – проста паляць.

Прыклад беларускі – загад цэнам на яйкі не расьці. Калгасы ня могуць наталіць рынак яйкамі па заніжанай цане, і яйкі зьнікаюць. Першы ўказ спараджае другі – пра датацыі калгасам і гандлёвым прадпрыемствам. Намер перадаць частку дабротаў ад вытворцаў спажыўцам ператварыўся ў спусташэньне кашальку падаткаплатнікаў – маўляў, калгасам патрэбныя субсыдыі. У дзеяньне зноў прыйшоў чорны трохкутнік.

## Нацыянальныя чэмпіёны. Субсыдыі

Падтрымка індустрыйнага прэстыжу краіны – ганаровы абавязак любога ўраду. Як не дапамагчы прадпрыемствам – флягманам прамысловасьці, што праслаўляюць гандлёвую марку краіны ў сьвеце? Такога погляду прытрымліваліся многія заходнія ўрады ў сямідзясятыя гады, калі ўзьнікла мода на стварэньне "нацыянальных чэмпіёнаў" – буйных прадпрыемстваў – шляхам прамой ці ўскоснай дзяржаўнай падтрымкі.

Што адбываецца? Ва ўмовах свабоднага рынку прадпрыемства, скажам, "Мішэлен", прадукуе мільён шынаў на год. Гэта вызначаецца коштам іх вытворчасьці – выдаткамі на абсталяваньне, цаной на гуму, заробкам. Урад выдае датацыю, каб завод нарошчваў магутнасьці. Фактычна ўрад бярэ на сябе частку дадатковага кошту *(marginal value)* прадукцыі, і ў выніку гэты самы кошт паніжаецца. Пры гэткім кошце можна дасягнуць вытворчасьці двух мільёнаў замест аднаго, пачаць пастаўляць шыны на экспарт... Словам, шэраговае прадпрыемства ператвараецца ў нацыянальнага чэмпіёна. Аднак за два мільёны шынаў на рынку павінна быць іншая цана! Але ж ва ўмовах субсыдыі апошняя не мяняецца, і ў выніку расьце лішак вытворцы. Субсыдыю аплацілі падаткаплатнікі. Магчыма, ім падабаецца падтрымліваць мясцовую прамысловасьць. Магчыма, яе моц – гэта тавар, за які яны хацелі б плаціць. Але аплачваць мёртвую страту ніхто не захоча. А яна непазьбежная, таму што вытворца выпускае ўдвая болей шынаў па завышанай цане. У свабодных умовах такі вытворца выпускаў бы менш шынаў, а магчыма, не працаваў бы наагул. На датацыі ж ён працягвае неэфэктыўную вытворчасьць, бязмэтава выдаткоўваючы нацыянальнае дабро. Субсыдыя – сумнеўная паслуга й самім прадпрыемствам. Звычка да датацыяў, якія не залежаць ад вытворчасьці, прыводзіць да таго, што прадпрыемствы пазбаўляюцца стымулу зьніжаць дадатковы кошт, губляюць эфэктыўнасьць і, калі рынак па нейкіх прычынах мяняецца ці субсыдыі перастае хапаць, ідуць на дно. Менавіта так і адбылося са шматлікімі нацыянальнымі чэмпіёнамі. Калі межы адчыніліся, ім давялося канкураваць зь фірмамі з краінаў, дзе гэткае моды на субсыдыі не было. Там выжываюць і без датацыяў і дасягаюць ніжэйшага сабекошту, выцясьняючы такім чынам нацыянальных чэмпіёнаў зь міжнародных рынкаў. Іронія лёсу: у той самай Францыі фірмы, што дасягнулі посьпехаў і сталіся сапраўдным гонарам нацыянальнае эканомікі, у сьпісы нацыянальных чэмпіёнаў ніколі не ўваходзілі.

Існуе шэраг іншых спосабаў умяшаньня дзяржавы ў справы рынку. Іх заўсёды адрозьнівае адно – апроч пераразьмеркаваньня дабротаў ад аднае часткі грамадзтва да іншае яны ўсе выклікаюць мёртвую страту – марнаваньне рэсурсаў, ад якога не выйграе ніхто. Эканамістам няважна, хто каму й калі тыя рэсурсы перадае. Калі церпяць спажыўцы, а вытворцы выйграюць – гэта ўжо пытаньне палітычнае. Эканамісты ня любяць, калі рэсурсы не дастаюцца нікому. Так адбылося з максымальнай арэндавай платай у Нью-Ёрку. Так адбываецца зь зернем у Эўрапейскім Зьвязе. Так адбываецца практычна з усімі галінамі прамысловасьці Беларусі.

Менавіта ў такіх экстрэмальных выпадках – галоў-

ная небясьпека. Калі субсыдыі й цэнавы кантроль становяцца галоўным інструмэнтам эканамічнае палітыкі ўраду, складаецца сытуацыя, пры якой удзельнікі эканомікі, як людзі рацыянальныя, пачынаюць цяміць, што пераразьмеркаваньне нацыянальных дабротаў ад іншых групаў сабе ў кішэню выгаднейшае за вытворчасьць гэтых самых дабротах. Вынікае т.зв. "грамадзтва шукальнікаў хабару". Замест сьвету, у якім індывідуальнае зло ператвараецца ў грамадзкае дабро шляхам рынкавага цэнаўтварэньня, зьяўляецца сьвет, у якім індывідуальнае зло ператвараецца ў зло грамадзкае. Дырэктары заводаў, замест рэарганізацыі вытворчасьці й пошукаў рынкаў збыту, абіваюць парогі міністэрстваў у пошуках ільготных крэдытаў, што выдаюцца са сродкаў ад падатку на прыватных прадпрымальнікаў. Старшыні калгасаў шукаюць субсыдыі ў выглядзе бясплатнае працы студэнтаў, а студэнты атрымліваюць бясплатнае права лайдачыць. Жахлівасьць гэтае сытуацыі ня ў тым, што яна амаральная, а ў тым, што кожная такая транзакцыя суправаджаецца мёртвай стратай. Кожнага разу, калі дзяржава парушае натуральны балянс рынку, частка нацыянальнага багацьця згарае ў чорным трохкутніку. Калі гэта адбываецца паўсюль і штодня, надыходзіць апошняя стадыя эканамічнага раку. Сьмяротна хворая эканоміка губляе свае жыцьцёва важныя клеткі, і рана ці позна яе цалкам паглынае чорны трохкутнік мёртвай страты.

## Case Study. Эканаміст за разумную матэрыяльную дапамогу

Уявіце: нерэнтабэльныя вялікія прадпрыемствы, па прычыне неэфэктыўнасьці, ня могуць зьнізіць сабекошт прадукцыі і вымушаныя скарачаць яе абарот. Тысячы працоўных, што аддалі роднаму, часта адзінаму ў горадзе, заводу свае лепшыя гады, перажываюць асабістую трагедыю. Для многіх зь іх, асабліва калі ў крызысе эканоміка ўсяе краіны, надзеяў тэрмінова знайсьці іншую працу практычна няма. Так адбываецца ня толькі ў Беларусі. Напрыклад, так сталася ў Брытаніі ў 80-я гады, калі ўрад вырашыў спыніць субсыдаваньне стратных шахтаў. Вынікае сацыяльны крызыс і палітычны канфлікт. Ніякі, нават самы эканамічна граматны ўрад ня можа заплюшчваць вочы на індустрыйную праблему такога маштабу. Што ж рабіць? Канешне, можна не адмаўляцца ад палітыкі датацыяў, цалкам усьведамляючы, што яна прыводзіць да мёртвае страты. Субсыдыі зьнізяць кошт вытворчасьці прадукцыі, і прадпрыемствы зноў запрацуюць на поўную магутнасьць. Аднак калі колькасьць нерэнтабэльных прадпрыемстваў параўнальна высокая, а эканоміка набліжаецца да стадыі "пошукаў хабару", гэтае рашэньне ненадзейнае. Эканамічна граматная альтэрнатыва – аказаць гэтым прадпрыемствам прамую матэрыяльную дапамогу, без прывязкі яе да аб'екту вытворчасьці. Зь бюджэту на дапамогу пойдзе столькі ж, колькі й на субсыдыі, але гэта не прывядзе да мёртвае страты. У адрозьненьне ад субсыдыі, мэтай якой якраз і ёсьць рост вытворчасьці, прамая дапамога не стварае стымулу падтрымліваць неэфэктыўную вытворчасьць. Паралельна ўрад мусіць аб'явіць пра свой намер у будучыні зьліквідаваць нерэнтабэльныя прадпрыемствы, калі тыя ня здолеюць зьмяніць сябе самі. Прамая дапамога мяняе мысьленьне – псыхалёгія нацыянальнага чэмпіёна саступае месца псыхалёгіі чалавека, які разумее, што яму дапамагаюць. Замест стымулу працягваць неэфэктыўныя выдаткі вынікае стымул шукаць новыя магчымасьці.

Толькі жорсткі эканаміст можа патрабаваць закрыцьця нерэнтабэльных чэмпіёнаў сацыялістычнае эканомікі: працоўныя застануцца без заробку. Выплаты варта працягваць – але не як заробак, а як дапамогу ахвярам пераменаў. Адпаведна, ня трэба і патрабаваць абавязковага зьяўленьня працоўных на заводзе – гэта дасьць ім дадатковы стымул самастойна шукаць выйсьце.





Зьміцер Баркоўскі

# Мова ў ЗША

*Бадай, увесь сьвет ламае галаву над амэрыканскім фэномэнам: што аб'ядноўвае амэрыканцаў, гэткіх розных людзей, у адну нацыю? Згадваюць тут і любоў да свабоды, і прыхільнасьць да дэмакратычных прынцыпаў… Сапраўды, усё гэта надае амэрыканцам моцы й дапамагае задзіночыцца. Аднак ня варта забывацца і на яшчэ адзін важны чыньнік – на ангельскую мову. Як вядома, амэрыканцы – нацыя эмігрантаў, "дзяцей розных народаў", расаў і рэлігіяў. Іхныя аўтэнтычныя мовы робяць значны ўнёсак у агульную культуру. Але сапраўднымі амэрыканцамі ўсё гэта разнастайнае насельніцтва робіць менавіта ангельская. 200-гадовая гісторыя Штатаў запэўнівае скептыкаў па ўсім сьвеце ва ўнікальнай здольнасьці мовы аб'ядноўваць людзей. Насамрэч, гэта вельмі дэмакратычна й па-амэрыканску: адзіная мова дае магчымасьць усім без абмежаваньняў выказвацца і, самае галоўнае, быць пачутымі.*

І ўсё ж, зыходзячы з тых самых дэмакратычных прынцыпаў, шмат хто ў Штатах лічыць, што варта было б прызнаць дзяржаўнымі й іншыя мовы. Прыхільнікі такога падыходу даводзяць, што валоданьне ангельскай – зусім не абавязковы складнік годнага пражываньня ў ЗША. Напрыклад, амэрыканскі аддзел адукацыі паведамляе, што канфэрэнцыі, прысьвечаныя пытаньням шматмоўнага навучаньня, ладзяцца ўсё часьцей і колькасьць навукоўцаў, якія настойліва патрабуюць увядзеньня іншых дзяржаўных моваў у побыт мультыкультурных Злучаных Штатаў, штогод павялічваецца. У дадзены момант асноўная ўвага надаецца, вядома, гішпанскай.

Такое ўражаньне, што амэрыканцы й самі ня надта добра ўяўляюць, да якіх наступстваў можа прывесьці прызнаньне гішпанскай мовы афіцыйнаю: астатнія больш за 100 моваў, якімі карыстаюцца ў ЗША, апынуцца ў становішчы гэткіх пакрыўджаных сваякоў. А як жа правы нацыянальных меншасьцяў?

Зрэшты, дзьвюхмоўная адукацыя ўжо даўно практыкуецца ў шматлікіх амэрыканскіх ВНУ, дзе неангламоўныя студэнты навучаюцца ўсім акадэмічным прадмэтам, такім як матэматыка, філязофія, гісторыя, выключна на родных мовах. Ангельская ў такіх установах выкладаецца як асобны прадмэт (амаль як у нас беларуская!). Праблема гэткага падыходу ў тым, што дагэтуль не існуе крытэраў, паводле якіх можна было б вызначыць, ці атрымлівае навучэнец дастатковыя веды ангельскай, каб пасьпяхова адаптавацца да англамоўнага грамадзтва. Вынікае й яшчэ адна складанасьць: амэрыканцы актыўна мігруюць у межах краіны, і, відавочна, перад гішпанамоўным студэнтам паўстануць сур'ёзныя праблемы, калі ён захоча перавесьціся ва ўнівэрсытэт з ангельскаю моваю навучаньня. Таму шмат хто абмяжоўваецца карыстаньнем роднай мовай толькі ў сямейным асяродку.

Некаторыя прыхільнікі дзьвюхмоўнай адукацыі вельмі заклапочаныя захаваньнем роднай гаворкі сярод патомкаў эмігрантаў і ня бачаць тут аніякае пагрозы для ангельскай мовы. Ёсьць і такія, хто лічыць, што асноўная мэта білінгвістычных праграмаў – з дапамогаю роднай мовы навучыць студэнтаў камунікаваць на ангельскай. Аднак гэткія пэрспэктывы пакідаюць шмат пытаньняў…

У школе Ньюхал у Каліфорніі некаторыя гішпанамоўныя бацькі актыўна выступаюць супраць дзьвюхмоўнай праграмы навучаньня, якая базуецца на гішпанскай. Іхныя дзеці скардзяцца на тое, што іх сыстэматычна ігнаруюць англамоўныя пагодкі. Што да вышэйшай школы, перад студэнтамі, якія раней вучыліся ў гішпанскай мове, часьцяком паўстаюць цяжкасьці з засваеньнем праграмы толькі праз тое, што яны вымушаныя прыстасоўвацца да англамоўнага навучаньня.

Моўнае пытаньне – звычайная для дэмакратычнага грамадзтва зьява. У Злучаных Штатах яна абумоўленая самой гісторыяй разьвіцьця краіны. Асобна стаіць комплекс праблемаў, якія маюць дачыненьне да захаваньня гаворак карэннага індзейскага насельніцтва. Сапраўды, ёсьць над чым пачухаць патыліцу.

# АДУКАЦЫЯ ЗАМЯЖОЙ 2002

Фонд імя Стэфана Баторыя (Варшава) аб'яўляе конкурс на атрыманьне гадавых стыпэндый на навучаньне ў Польшчы для студэнтаў 3-х і 4-х курсаў ВНУ Беларусі, якія працуюць над дыплёмам у наступных галінах:

- *Права і адміністрацыя;*
- *Макраэканоміка;*
- *Сацыялёгія;*
- *Дзяржаўнае кіраваньне і адміністрацыя;*
- *Гісторыя;*
- *Міжнародныя адносіны;*
- *Паліталёгія.*

Фармуляры анкет, а таксама дадатковую інфармацыю можна атрымаць штодзённа ад панядзелка да пятніцы з 10 да 18 гадзінаў па адрасе:

***г. Менск, вул. Каліноўскага 52-4,***
***(ст. мэтро "ЎСХОД")***
***тэл./fax (017) 264 70 26,***
***e-mail: barc@user.unibel.by***

Цалкам афармленыя заявы просім дасылаць да

**1 траўня 2001**

на паштовы адрас: ***220005, г. Менск, а/с 76, BARC*** альбо прыносіць на пазначаны вышэй адрас.
Веданьне польскай мовы **неабавязковае!**













Юры Панін

# Чыгуначныя музэі Эўропы



Здымкі аўтара

*Пра Таварыства абароны помнікаў тэхнікі й транспарту "Наша Перамога" "СD" ужо пісала ў мінулым нумары. Нагадаю, што наша арганізацыя займаецца пошукам, рэстаўрацыяй ды захаваньнем старажытнай тэхнікі. І вось я, як прадстаўнік чыгуначнай сэкцыі таварыства, вырашыў распавесьці пра тое, як у розных краінах Эўропы захоўваюць чыгуначную спадчыну.*

Пачну, напэўна, зь Беларусі. У лістападзе мінулага году я разам з намесьнікам старшыні нашага таварыства Васілём Цярэшкам наведаў чыгуначны музэй у Баранавічах. Гэты музэй быў заснаваны па ініцыятыве – і, зразумела, пры непасрэднай падтрымцы – кіраўніка Беларускай чыгункі. Паравозную частку калекцыі музэя прадстаўляюць пяць лякаматываў. Самы стары зь іх, *$Э^м$ 733-87*, пабудаваны ў 1934 г. *ТЭ-5248*, трафэйны паравоз, быў зроблены ў Нямеччыне адмыслова для вайсковых патрэбаў, а потым, як і больш за 2000 ягоных "братоў", трапіў у Саюз. "Лебядзянка" *Л-4540* дасюль знаходзіцца ў працоўным стане: ён сваім ходам прыбыў зь Ліды і, дарэчы, падаваў сыгнал да адкрыцьця музэя. Побач – два даваенныя паравозы, $Э^р$ і $Э^л$.

Сярод рухомага саставу вылучаюцца двухвосны й чатырохвосны пасажырскія вагоны, таксама пабудаваныя яшчэ да вайны. Шмат у Баранавічах і старых грузавых вагонаў. А такой колькасьці разнастайнага чыгуначнага інструмэнту ды сыгнальных прыладаў асабіста



Музэй у Баранавічах. Ручная дрызіна

я наагул болей нідзе ня бачыў! Тут і жэзлавыя апараты, розныя прылады пуцейцаў ды лякаматыўшчыкаў, сыгнальныя ды асьвятляльныя ліхтары... Ёсьць нават дзеючы сэмафор ды гідракалёнка. Сярод найбольш экзатычных экспанатаў вылучаюцца ручная дрызіна й стрэлка з ручным прывадам.

І яшчэ. Нядаўна стала вядома, што ў Берасьці падыходзіць да заканчэньня будаўніцтва чыгуначнага музэя і па хуткім часе мае адбыцца яго ўрачыстае адкрыцьцё.

Ну, а што ж робіцца за мяжой? Летам мінулага году я быў у Варшаве, дзе наведаў два буйныя чыгуначныя музэі. Першы зь іх месьціцца ў будынку й на шляхах былога вакзала Warszawa Glowna. Пахадзіўшы спачатку па залях, я крыху расчараваўся: там захоўваюцца, у асноўным, мадэлі рухомага саставу, але натуральных экспанатаў дужа мала. Тым ня менш, я доўга ня мог адарвацца ад двух чыгуначных макетаў, па якіх увесь час бегалі цягнікі.

Калі мы выйшлі на былыя пэроны вакзала, я быў вельмі ўражаны відовішчам. Гэтулькі разнастайных паравозаў я ніколі ня бачыў! Там былі як лякаматывы пачатку стагодзьдзя, так і прадстаўнікі апошніх пакаленьняў паравозаў. Сярод першых – унікальны паравоз тыпу *1-1-1*: машына, якая мае



Паравоз ТЭ-5248 (Баранавічы)



Варшаўскі трамвай

толькі адну рухаючую вось. Побач – два вузкакалейныя паравозы, ручная дрызіна, а таксама электравозы, цеплавозы ды вагоны, якія ўжо сталіся антыкварыятам. Самым незвычайным экспанатам, на маю думку, зьяўляецца бронецягнік часоў другой сусьветнай вайны.

На жаль, у музэі я быў ня надта доўга, бо заўважыў, што маім польскім сябрам, якія зусім не цікавяцца чыгункай, нашая пагулянка пачала надакучаць. І вось, едзем мы па Варшаве, і мой знаёмец паказвае: "Зірні, стары трамвай! Хочаш пракаціцца?" Угаворваць мяне не давялося. Мы абагналі вагон, прыпаркавалі машыну і, заплаціўшы па два злотыя, селі ў трамвай. Сапраўды, тое ўражаньне нельга забыць! Гэта быў вагон сэрыі *K*, пабудаваны ў 1939 годзе на заводзе ў Катавіцы. У час вайны ён быў вывезены ў Нямеччыну, потым – вернуты на радзіму, а сёньня гэта адзін з чатырнаццаці рэтравагонаў, якія былі адноўленыя клюбам аматараў гарадзкога транспарту. Кандуктарамі ды вагонаважатымі, дарэчы, працуюць валянтэры.



Дрызіны, перароблены я з аўтамабіляў (Сахачаў)

...Ішоў трамвай вельмі ліха. Грымеў, канешне, але далёка ня так моцна, як нашы менскія *РВ36М*. У вагоне цалкам адноўлены стары інтэр'ер, дый зьнешні выгляд таксама нішто сабе. Але як сьлед разгледзець трамвай звонку я не пасьпеў: ён рухаўся па замкнёным маршруце, і было невядома, дзе й калі ён спыніцца...

Праз колькі дзён мы паехалі ў Сахачаў, маленькі гарадок у 70 кілямэтрах на захад ад Варшавы. Там месьціцца галоўная станцыя музэйнай вузкакалейкі, на шляхах якой захоўваецца старая вузкакалейная тэхніка. У музэйных залях мяне вельмі парадавала багатая калекцыя старых чыгуначных ліхтароў – больш за 30 асобнікаў. Звонку я доўга хадзіў вакол шматлікіх вузкакалейных паравозаў, якія былі зробленыя ў розныя часы на розных заводах Эўропы і ў рэшце рэшт апынуліся ў музэі. Найстарэйшы зь іх – польскі *PKS3* 1924 году выпуску. А самы незвычайны экспанат музэя – вагон варшаўскай конкі, пабудаваны, відаць, яшчэ ў XIX ст. Ёсьць у музэі і салён-вагон дырэктара Крушовіцкага цукровага заводу: любіў, відаць, прамысловы магнат павандраваць па сваёй вузкакалейцы. Побач стаіць яшчэ цэлы састаў вагонаў пазамінулага стагодзьдзя з паравозам у галаве. Здаецца, цягнік вось-вось выправіцца ў падарожжа! Музэй мае таксама дзьве дрызіны, перароблены я з аўтамабіляў. Адна зь іх раней была "Варшавай".

На жаль, мне не давялося пабачыць дзеючыя паравозы – тое, чым найбольш ганарыцца музей. Рэтрацягнік курсуе толькі па суботах, а ў астатнія дні стаіць на тэрыторыі дэпо, адгароджанай ад музэйнай пляцоўкі плотам. Паравозы, якія цяпер знаходзяцца ў працоўным стане – *Px29-1704* і *Px48-1755*, былі адрамантаваныя ў 80-х гадох. Іхнія трубы зноўку распачалі свой захапляльны расповед пра гісторыю чыгункі, а самі лякаматывы і дасюль зьдзіўляюць навакольных жыхароў, якія ніяк не чакалі такога працягу біяграфіі гэтых машын.

Яшчэ адно цікавае месца, дзе мне давялося пабываць, – Праскі Нацыянальны тэхнічны музэй. Ён адрозьніваецца ад астатніх галоўным чынам тым, што экспанаты месьцяцца не на адкрытым паветры, а ў агромністай залі. Чыгуначную частку экспазыцыі прадстаўляюць сем паравозаў, паравы самаходны вагон, два салён-вагоны, дзьве старажытныя дрызіны, разнастайныя сыгнальныя прылады, інструмэнты, нават проста часткі рухомага саставу. У музэі захоўваецца найстарэйшы чэскі паравоз (дарэчы, і самы стары з тых, якія мне калі-небудзь даводзілася бачыць). Гэта лякаматыў тыпу *"Kladno"* 1855 году выпуску. Ёсьць таксама ўнікальны паравоз *252.0*, пабудаваны заводам Wiener Neustadt у 1881 годзе. Акрамя гэтага, у музэі выстаўленыя каля трыццаці старажытных аўтамабіляў. Узрост некаторых зь іх – болей за 100 год. Найбольш запомніўся мне пажарны аўтамабіль *"Шкода"*, пабудаваны ў 1932 годзе. А такі самы элітарны *ЗІМ*, які захоўваецца ў Праскім музэі, ёсьць у аднаго зь сябраў "Нашай Перамогі" і выкарыстоўваецца для рэтрападарожжаў.



Варшаўскі музэй. Ручная дрызіна

Пад стольлю музэя вісяць старыя самалёты ды аэрапляны. Сярод іх – той самы, на якім славуты францускі лётчык Блерыё ўпершыню перасек Па-Дэ-Кале!

Чытачоў, напэўна, цікавіць пытаньне: а што будзе далей? А далей, то бок 1–3 траўня бягучага году, адбудзецца паравозны фэст у Дрэздэне, куды на сваіх паравозах зьедуцца чыгуначнікі з усёй Нямеччыны, а таксама з Чэхіі, Польшчы ды іншых краінаў Эўропы. Штогод фэст гэты зьбірае больш за 30.000 гледачоў з усяго сьвету. Вядома ж, я таксама туды паеду, калі, канешне, дэкан будзе ня надта супраць. Таму да новых сустрэчаў на старонках "CD"!

І апошняе. Калі хто-небудзь мае зьвесткі пра месцазнаходжаньне старажытнай тэхнікі, асабліва чыгуначнай, – просьба паведаміць у таварыства "Наша Перамога". Будзем удзячныя.





*Сяржук Скулавец*

# З гісторыі беларускага студэнцкага руху

## (1920—1930-я гг.)*

*Грамадзтва ніколі не стаіць на месцы. Штуршкамі для яго разьвіцьця служаць разнастайныя супярэчнасьці й канфлікты. Пэўныя сацыяльныя групы гуртуюцца для барацьбы з тым, што, на іх думку, перашкаджае нармальнаму разьвіцьцю грамадзтва. Адным з такіх згуртаваньняў у 1920–30-я гг. стала Аб'яднаньне беларускіх студэнцкіх арганізацый (АБСА).*

АБСА было заснавана ў 1924 годзе, на зьезьдзе прадстаўнікоў зь Беларусі й замежжа, які праходзіў у Празе. Чаму менавіта ў Празе? Справа ў тым, што выпускнікі беларускіх гімназій мелі мала шанцаў атрымаць вышэйшую адукацыю ў тагачаснай Польшчы. Таму нярэдка заходнебеларуская моладзь нелегальна йшла празь мяжу на ўсход, у СССР, альбо на захад, у Чэхаславакію, Нямеччыну. Асаблівай прыхільнасьцю да беларусаў вылучаліся ўлады Чэхаславакіі.

Першым старшынёй АБСА быў абраны Вінцук Грышкевіч. Ён узначальваў аб'яднаньне з 1924 па 1926 гады. Яго пераемнікамі сталіся Міхал Гузоўскі (1926 г.) і Вячаслаў Лаўскі (1927 г.). Ужо на праскім зьезьдзе вызначылася палітычная скіраванасць АБСА: дэмакрактычна настроеныя дэлегаты прымусілі студэнтаў-камуністаў пакінуць залю. Апошнія былі абвешчаныя ворагамі кансалідацыі, што маюць намер надаць аб'яднаньню студэнтаў прасавецкую арыентацыю. На зьезьдзе было аб'яўлена, што АБСА ёсьць апалітычнай арганізацыяй, асноўная мэта якой – аб'яднаньне ўсёй студэнцкай моладзі. Аднак насамрэч арганізацыя ўяўляла сабою тыповае незалежніцкае згуртаваньне, якое вяло барацьбу як супраць камуністычнага ўплыву, так і супраць уціску палякаў. Зь іншага боку, хоць аб'яднаньне і было шчыльна зьвязана зь беларускімі эсэрамі, яно ўсё ж дзейнічала самастойна.

Наагул, у АБСА ці не ад пачатку вылучыліся дзьве плыні: студэнцкая сэкцыя пры Беларускай грамадзе і Аб'яднаньне беларускага студэнцтва. У гэтыя групоўкі ўваходзілі як беларускія незалежнікі, так і камуністы ды прыхільнікі "русской идеи". Безумоўна, супрацоўніцтва людзей з такімі рознымі характарамі й поглядамі не магло быць доўгачасовым. У выніку паміж студэнцкай сэкцыяй і Аб'яднаньнем беларускага студэнцтва адбыўся раскол. У асобную групоўку вылучыліся таксама марксісты, якія пазьней стварылі "Саюз студэнтаў, грамадзян БССР". Зьявіліся

таксама група "Единой русской культуры" і эсэраўскае аб'яднаньне "Вольная грамада". Прычынай расколу былі ідэйна-палітычныя разыходжаньні, а падставай сталася выданьне незалежнікамі часопісу "Перавясла".

Значную ўвагу АБСА надавала міжнародным зносінам, пошуку сувязяў са студэнцтвам замежных краінаў. Кантакты напрацоўваліся з разьлікам на будучыню: маўляў, калі былыя студэнты стануць элітай грамадзтва, на іх можна будзе абаперціся і такім чынам атрымаць падтрымку ў дасягненьні сваіх палітычных мэтаў. Найбольш цесныя сувязі былі наладжаныя з палякамі й з Цэнтральным саюзам Украінскага студэнцтва (ЦСУС). Пра гэта сьведчыць, да прыкладу, той факт, што ў 1928 г. АБСА брало непасрэдны ўдзел у пятым кангрэсе ЦСУС. А ў Віленскім універсытэце вынікам збліжэньня беларускага, літоўскага і ўкраінскага студэнцкіх саюзаў сталася аб'яднаньне кіраўнічых структур. 9 сакавіка 1930 году ў Вільні адбыўся першы гадавы канцэрт-баль для студэнтаў зь Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы й іншых краін. Дарэчы, яшчэ ў 1926 г. АБСА ўдзельнічала ў Міжнароднай студэнцкай канфэрэнцыі, што сьведчыць пра высокі аўтарытэт арганізацыі й прызнаньне яе на міжнароднай арэне.

Паступова аб'яднаньне набыло заходнюю арыентацыю. Цяпер яно актыўна процістаяла расейскім ды савецкім уплывам. У прэсе расейцаў называлі "няпрошанымі апекунамі" й "маскалямі". А ўніверсытэты ды інстытуты Савецкай Беларусі наагул не лічыліся вышэйшымі навучальнымі ўстановамі.

Кажучы пра моладзевы рух 20–30-х гадоў, нельга абмінуць увагаю і Беларускі Студэнцкі Саюз – згуртаваньне студэнтаў-беларусаў Віленскага ўніверсытэту. Як асобная арганізацыя, БСС узьнік у 1920 годзе, студэнцкі саюз жа сфармаваўся толькі ў 1921-м. Ля вытокаў яго стварэньня стаялі У.Гагалінскі, Ст.Станкевіч, М.Амельяновіч, А.Бартуль, Я.Ермалковіч. БСС дэкляраваў: "Лічым сябе адзінай сям'ёй беларускай моладзі і адзіны маем ідэал – Вольную Беларусь". Ад самага пачатку Саюз студэнтаў Віленскага ўніверсытэту разгарнуў шырокую дзейнасьць на Беларусі: ладзіліся сходы, вечарыны, чыталіся лекцыі, а з 1924 году пачаў выдавацца часопіс *"Студэнцкая думка"*. Значную ўвагу ўрад БСС надаваў прапагандзе беларускай мовы сярод студэнцтва. З гэтай мэтай ва ўніверсытэце быў прачытаны цыкль лекцый па беларусазнаўстве. У якасьці дакладчыкаў запрашалі Антона Луцкевіча, Ігната Дварчаніна, Адама Станкевіча…

У 1928–29 гг. ва ўрад БСС увайшлі Міхась Тулейка, Мікола Ільяшэвіч, Язэп Жук, Адольф Клімовіч, Аўген Дыліс, Міхась Гарошка. 26 траўня 1929 году на гадавым сходзе БСС старшынёй быў абраны Мікола Шкалёнак. Да таго ж, былі зарганізаваныя разнастайныя сэкцыі: літаратурна-навуковая, музычна-драматычная, краязнаўчая і г.д. Вялікая ўвага ў БСС надавалася самаўдасканаленьню. Так, С.Каліна пісаў: "Беларускі студэнт, як і беларускі інтэлігент наагул, павінен быць да пэўнае меры універсальным. Гэта вынікае з нашага гістарычнага палажэньня, бо калі іншыя народы ўжо дайшлі да поўні свайго грамадзянскага разьвіцьця, то мы – пакуль на пайдарозе… Мы павінны непараўнальна больш працаваць" – словам, кіравацца прынцыпам "pervice te" – удасканальвайся.

1929-1930 акадэмічны год выдаўся для БСС нялёгкім: у шэрагах студэнцтва адбыўся раскол. 18 сакавіка 1930 году БСС правёў сход у знак пратэсту супраць перасьледу беларускага руху ў БССР. А ўжо 24 сакавіка, у адказ на гэты сход, у памяшканьне, дзе праходзіла паседжаньне БСС, прысьвечанае ўгодкам БНР, уварвалася група камуністаў з мэтай учыніць пагром. Гэтыя падзеі і прывялі да поўнага разрыву з камуністамі ды камсамолам.

У тым жа 1930 г. на базе БСС узнікае новая студэнцкая арганізацыя – Саюз студэнтаў-народнікаў імя Ф.Багушэвіча.

Найвышэйшага ўздыму дзейнасьць БСС дасягнула ў 1932 г.: 2-га лістапада пад эгідай саюзу спачатку ў Беластоку, а потым і ў Берасьці прайшлі акцыі пратэсту. На жаль, у архівах захавалася вельмі мала зьвестак пра гэтыя падзеі. Аднак польскую адміністрацыю яны вельмі напалохалі. Была праведзеная праверка ўсіх студэнтаў заходнебеларускіх зямель. Прайшла хваля арыштаў, якія часта суправаджаліся допытамі. Польскія ўлады зьвязвалі гэтыя акцыі зь дзейнасьцю камуністаў. Аднак яны памыляліся – напрыклад, у Пінску брыгада паліцыі "Палесьсе" падчас вобшуку знайшла ў студэнтаў нелегальную антыкамуністычную й антышавіністычную літаратуру.

У цэлым жа Беларускі Студэнцкі Саюз можна ахарактарызаваць як тыповую незалежніцкую арганізацыю: ягоныя акцыі былі скіраваныя як супраць польскіх, так і супраць савецкіх уладаў. Дый наагул, для большасьці беларускіх студэнцкіх суполак 20–30-х гадоў асноўнымі каштоўнасьцямі былі свабода й незалежнасьць Айчыны. Так што сёньняшняй моладзі ёсьць з каго браць прыклад.

***Артыкул падрыхтаваны паводле публікацый часопісу "Студэнцкая думка" (1928, №1(8)-3(10); 1929, №1(11); 1930, №1(12), 2(13)), а таксама па матэрыялах Дзяржаўнага архіву Берасьцейскай вобласьці.***





Марына Мікуліч

# Ці ёсьць сэкс мастацтвам?!

*Бадай, кожны пагодзіцца з тым, што жыцьцё ёсьць дэбаты, бо абмеркаваньне, спрэчкі ды адстойваньне ўласных пазыцыяў займаюць трывалае месца ў чалавечым быцьці. Вядома, кожны ўкладае свой тэмпэрамэнт і сваю матывацыю ў працэс дэбатаваньня. Напрыклад, адныя абмяркоўваюць законапраекты ў парляманце, іншыя – новую машыну суседа. Нехта спрачаецца спакойна, захоўваючы павагу да апанэнта, сёй-той пускае ў ход жэстыкуляцыю пагрозьлівага характару. Нягледзячы на розьніцу ў мэтодах, усё гэта дэбаты, усё гэта жыцьцё.*

А жыцьцё, як вядома, разнастайнае. Нядзіўна, што існуе асобны, пакуль малазнаёмы беларускай грамадзкасьці кшталт дыскусій, які можна апісаць як "дэбаты дзеля дэбатаў". Гэтая экзатычная разнавіднасьць падзяляецца на дэбаты Карла Попэра, амэрыканскія (альбо парляманцкія), брытанскія ды іншыя дэбаты. Час ад часу людзі, якія пасьлядоўна прытрымліваюцца прынцыпу "дэбаты дзеля дэбатаў", сустракаюцца, каб падыскутаваць на якую-небудзь тэму і ўдасканаліць сваё майстэрства. Чарговая такая тусоўка сабралася сёлета, 23-25 лютага, у курортным горадзе Адэсе. Паводле афіцыйнай фармулёўкі, адбыўся Другі Міжнародны Адэскі Турнір па парляманцкіх дэбатах. Тэма была вызначаная загадзя – "Freedom and Privacy" ("Свабода й асабістыя правы чалавека").

Міжнароднасьць турніру, канешне, была адноснай: удзел у ім брали толькі каманды з былога СССР – з Украіны, Беларусі, Расеі, Малдовы й Эстоніі. Аднак крытэры ацэнкі былі насамрэч інтэрнацыянальныя. Гульні судзілі адмыслоўцы з ЗША, Украіны, Пуэрта-Рыка, Беларусі, Малдовы. Да таго ж, у якасьці *lingua franca* была прынятая да болю знаёмая ўсяму сьвету ангельская мова. Такім чынам, нормы міжнароднасьці былі, здаецца, выкананыя.

Хоць адэскі турнір і быў турнірам па парляманцкіх дэбатах, ён зусім не прадугледжваў палітызаванасьці тэмаў. Слова "парляманцкія" датычыцца толькі працэдуры, якая набліжаная да парляманцкіх дыскусіяў. Як і ва ўсялякай спрэчцы, у дадзеных дэбатах бралі ўдзел т.зв. "сьцьвярджальнікі" й "адмоўцы" – іншымі словамі, Урад і Апазыцыя. Абодва бакі былі прадстаўленыя камандамі з двух чалавек: прэм'ер-міністар і сябра Ураду, лідэр Апазыцыі і сябра Апазыцыі адпаведна. Перад Урадам стаяла задача высунуць свой законапраект па загадзя вызначанай тэме і, вядома, адстойваць яго.


Прадстаўнікі беларускіх камандаў (фота аўтара)

Тэмы ж часам былі даволі правакацыйныя. Скажам, як вам падабаюцца наступныя фармулёўкі: "Сэкс ня ёсьць мастацтвам" альбо "Правы тых, хто паліць, мусяць быць абароненыя"? Галоўнай жа мэтай Апазыцыі было знайсьці слабыя месцы ў кейсе Ураду і, адпаведна, унесьці свае папраўкі (ці нават сфармуляваць свой варыянт законапраекту).

Вядома, працэс дэбатаваньня праходзіў напружана й дынамічна, бо кожнаму сьпікеру адводзіўся толькі пэўны час – ня больш і ня менш – для абароны пазыцыі каманды*. Паміж выступамі не было часу, каб падрыхтавацца, спакойна ўзважыць усе аргумэнты й выйсьці з прадуманай да дробязяў прамовай. Але ж у маланкавай рэакцыі, у здольнасьці хутка знайсьці контраргумэнты, ва ўменьні экспромтам складаць бліскучыя прамовы і ёсьць увесь сьмак дэбатаў. А гэтыя якасьці выяўляліся адразу ж, калі, напрыклад, Урад без па-

пярэджаньня звужаў праблему – гэтак, тэма "Гаварыць – гэта добра" магла быць зьведзеная да "Гаварыць пра наркотыкі, пра асабістае жыцьцё прэзыдэнта – гэта добра". У такіх варунках Апазыцыя практычна не магла загадзя ўявіць законапраект Ураду і мусіла гуляць без падрыхтоўкі. Магчыма, напачатку быў страх, але потым зьявіўся сапраўдны азарт! І ўжо ня мела ніякага значэньня ўласнае меркаваньне кожнага асобнага гульца. Галоўнае – рацыянальна давесьці слушнасьць аргумэнтаў сваёй каманды й выкрыць хібы пазыцыі апанэнтаў. Гэта зусім ня значыць, што ўдзельнікі займаліся сафістыкай. Хутчэй, у іх зьяўлялася магчымасьць убачыць праблему ў новым сьвятле.

Эмацыйнае напружаньне, хуткі тэмп працы, інтэлектуальнае процістаяньне – усё гэта значна падвышала ўтрымданьне адрэналіну ў крыві. Шкада, што толькі нешматлікія беларусы ведаюць пра гэтую экзатычную асалоду: у турніры бралі ўдзел усяго тры каманды зь Беларусі. Але ёсьць надзея, што сытуацыя палепшыцца: у Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце актыўна дзейнічае клюб парляманцкіх дэбатаў. Туды, дарэчы, можна затэлефанаваць па нумары 232-35-59. Зрэшты, кожны вольны выбіраць дыскусіі, якія яму болей даспадобы: парляманцкія, вулічныя, хатнія і г.д. Галоўнае – памятаць, што "закон джунгляў" ды "права дубца" ў цывілізаванай краіне дзейнічаць не павінны.

* Фармат парляманцкіх дэбатаў:
прэм'ер-міністар – 7хв.,
лідэр Апазыцыі – 8 хв.,
сябра Ураду – 8 хв.,
сябра Апазыцыі – 8 хв.,
лідэр Апазыцыі – 4 хв.,
прэм'ер-міністар – 5 хв.

*Inconnu*

# "Le français dans le monde"

*Прывітаньне, шаноўныя франкафоны, а таксама ўсе тыя, хто ніколі ня зблытае гэтых цікавых людзей з таксафонамі ды франкмасонамі!*

Ачомаўся я пасьля зімовае эпідэміі грыпусу ды агульнае млявасьці і ў рэшце рэшт завітаў у бібліятэку Пушкіна, а дакладней, у Франка-беларускую залю – вырашыў пацешыць чытачоў "CD" расповедам пра што-небудзь карыснае з французскіх мэдыяў. Адразу трапіўся мне на вочы часопіс "Le français dans le monde" ("Французская мова ў сьвеце"). У мінулым нумары я ўжо распавядаў пра "Сьвет адукацыі". Думаеце, галоўныя словы ў гэтых назвах – "адукацыя" й "французская"? Памыляецеся! Французы ўжо даўно прызвычаіліся да глябальнага мысьленьня. Мала ім, бач ты, сваёй Гексагоны, ім увесь *сьвет* падавай! Унівэрсум створаны толькі для іх, і менавіта яны, іхняя мова й культура – галоўныя ў сьвеце. Вось у каго варта павучыцца самапавазе!

Падача матэрыялу ў "Français" адпаведная. Усе ў сьвеце – французы, нават калі самі яны пра гэта не здагадваюцца. На вокладцы нумару, які прыцёг я гэтым разам дадому, зьмешчаны вялізны здымак. Тыповага француза – маленькага й чарнявенькага такога – я на ім, як ні шукаў, не знайшоў. Затое ёсьць мурынка, азіятка, хлопчык скандынаўскае зьнешнасьці. Хаця не, можа, вось тое кірпатае дзяўчо зь хітрай усьмешкай, якое нібыта незнарок вылезла на першы плян, і ёсьць француажнка? Надта ўжо гэта ў гальскім стылі! Але Бог зь ім, з афармленьнем, са здымкамі й прэтэнзіямі. Забудземся на хвіліну пра ўзровень усьпрыняцьця і зьвернемся да зьместу.

Напачатку я не на жарт спужаўся, зглед зеўшы пад назвай надпіс маленькімі літарамі: "Міжнародны франкафонны часопіс для выкладчыкаў французскай". Відаць, спрацавалі ўва мне саўковыя стэрэатыпы наконт выкладчыкаў: я ўявіў сабе кабету гадоў пад 50, якая гартае даволі-ткі мадэрновы размаляваны часопіс са здымкамі рок- і рэп-зорак і маладымі разумнымі тварыкамі на кожнай бачыне.

Пачаў чытаць. Першая думка: паважаныя выдаўцы, вы ўсё ж вызначцеся, каму адрасаваны ваш часопіс. Я далёка не выкладчык (не дарос) і не такі ўжо гарачы прыхільнік Сусьветнае франкафаніі, але ж мне было цікава.

Што ні кажыце, месьцейка сабе выдаўцы "Français" знайшлі цёплае: пад крыльцам edition-гіганту "Hachette". Адразу згадваюцца салідныя й густоўныя слоўнікі зь вялікай літарай "Н" на вокладцы, а таксама малады Заля, які пачынаў сваю кар'еру сьціплым службоўцам у "Hachette".

У першую чаргу часопіс прыдасца тым, хто сур'ёзна займаецца французскай. Матэрыялы – самыя разнастайныя: ад краязнаўчых артыкулаў да новых распрацовак у галіне вывучэньня фанэтыкі, лексыкі, граматыкі французскай мовы.

Зрэшты, я не мэтадысты з РАНА, таму доўга на мазгі капаць ня буду. А вось агляды аўдыё-, CD- і друкаванай прадукцыі, інтэрвію зь пісьменнікамі ды праваднік па французскім адукацыйным Нэце мне прыйшліся даспадобы. Апошняй публікацыяй ужо пасьпеў скарыстацца і маю гонар паведаміць вам, што больш поўнага сьпісу адрэсаў французскіх віртуальных бібліятэкаў я пакуль нідзе не сустракаў.

І апошняе: усім, хто зацікавіўся, раю пасьпяшацца ў Франка-беларускую залю, што на Гікалы, 4, бо нейкі несумленны чытач (выкладчык, хто ж яшчэ!) ужо пасьпеў павыдзіраць старонкі нават у самых сьвежых нумарах "Français".





# Што Вы за птушка?

*Адказваючы на пытаньні, трэба выбраць з трох варыянтаў адзін, які Вам больш даспадобы. Той ці іншы адказ ня кажа аб тым, што Вы лепшы ці горшы, але хутчэй сьведчыць пра адметнасьці Вашага характару.*

***1. Вам 12 год, Вы сабраліся на шпацыр, але маці раптам заяўляе: "Ужо позна, нікуды ня пойдзеш". Вы:***

а) папросіце маці, каб яна Вас адпусціла, а калі яна ўсё адно будзе супраць – застанецеся дома.

б) скажаце самому сабе: "Ня надта й хацелася".

в) адпавядзеце: "Нічога ня позна, я пайшоў!", хоць маці й будзе злавацца.

***2. У выпадку рознагалосься Вы заўсёды:***

а) уважліва прыслухоўваецеся да чужога меркаваньня, спрабуеце адшукаць магчымасьць узаемапаразуменьня.

б) пазьбягаеце бессэнсоўных спрэчак і спрабуеце дамагчыся свайго іншымі шляхамі.

в) адкрыта выказваеце сваё меркаваньне й імкнецеся пераканаць суразмоўцу.

***3. Вы ўяўляеце сябе чалавекам, які:***

а) любіць падабацца многім і пры гэтым быць як усе.

б) заўсёды застаецца самім сабой.

в) любіць падпарадкоўваць іншых людзей сваёй волі.

***4. Вашае стаўленьне да рамантычнага каханьня:***

а) быць побач з каханым – вялікае шчасьце!

б) гэта ндрэнна, пакуль ад цябе не патрабуюць надта шмат і ня лезуць у душу.

в) гэта цудоўна, асабліва калі каханы чалавек дае Вам усё, чаго Вы ад яго чакаеце.

***5. Калі Вы ў роспачы, Вы:***

а) імкнецеся знайсьці каго-небудзь, хто б Вас суцешыў.

б) спрабуеце не зьвяртаць увагі на праблемы.

в) пачынаеце злавацца і можаце спагнаць сваю злосьць на тых, хто побач.

***6. Калі шэф не зусім справядліва раскрытыкаваў Вашую працу:***

а) Вас гэта зачэпіць, але Вы паспрабуеце не паказваць гэтага.

б) Вы абураны і будзеце актыўна абараняцца, нават выказваючы ў адказ свае прэтэнзіі.

в) Вы засмучоны, але прымаеце тое, у чым ён мае рацыю, і потым спрабуеце выправіць свае памылкі.

***7. Калі хто-небудзь "уколе" Вас Вашымі недахопамі, Вы:***

а) раздражняецеся і маўчыце, перажываеце крыўду ў сабе.
б) напэўна, раззлуецеся і адкажаце тым самым.
в) разгубіцеся, пачнеце апраўдвацца.

***8. Вы лепей за ўсё дзейнічаеце, калі:***
а) Вы самі па сабе.
б) Вы – лідэр.
в) Вы – частка каманды.

***9. Скончыўшы нейкую складаную працу, Вы:***
а) проста пераходзіце да наступнае справы.
б) паказваеце ўсім, што ўжо ўсё зрабілі.
в) жадаеце, каб Вас пахвалілі.

***10. На вечарынцы Вы звычайна:***
а) ціхенька сядзіце ў куце.
б) імкнецеся быць у цэнтры ўсіх падзеяў.
в) у асноўным бавіце час, дапамагаючы накрываць на стол і мыць посуд.

***11. Калі касір у краме не дадасьць Вам рэшту, Вы:***
а) будзеце патрабаваць свае грошы.
б) прамаўчыце: Вы ня любіце сварыцца з касірамі
в) ня зьвернеце ўвагі: дробязь ня вартая лішніх нэрваў.

***12. Адчуваючы, што злуецеся, Вы:***
а) выказваеце свае пачуцьці і вызваляецеся ад іх.
б) пачуваецеся няёмка.
в) спрабуеце сябе ўціхамірыць.

***13. Захварэўшы, Вы:***
а) робіцеся раздражняльным і нецярпімым.
б) кладзецеся ў ложак і чакаеце, што за Вамі будуць хадзіць.
в) спрабуеце не зьвяртаць увагі і спадзяецеся, што ня зьвернуць і астатнія.

***14. Калі якісьці чалавек выклікаў у Вас моцнае абурэньне, Вы:***
а) выкажаце яму свае пачуцьці адкрыта.
б) выплесьнеце свае эмоцыі ў якой-небудзь іншай справе, размове.
в) дасьце яму зразумець гэта ўскосна.

***15. Ваш дэвіз:***
а) пераможца заўсёды мае рацыю.
б) увесь свет любіць таго, хто сам здольны любіць.
в) цішэй едзеш – далей будзеш.

# Ключ

З дапамогай тэсту Вы можаце суаднесьці свой характар з трыма яскравымі і дастаткова рознымі асобаснымі партрэтамі, названымі ўмоўна Голуб, Страўс і Ястраб. Апрацуйце вынікі сваіх адказаў – разбейце 15 пытаньняў-адказаў тэсту на 3 пяцёркі: 1 – 5, 6 – 10, 11 – 15.

Каб даведацца, наколькі Вы Голуб, падлічыце свае адказы "а" ў першай пяцёрцы, "в" – у другой, "б" – у трэцяй. Максымальная мажлівая колькасьць – 15, мінімальная – 0. Ступень выражанасьці ў Вас "страўсіных" рысаў пакажа сума "б" у першай пяцёрцы, "а" – у другой і "в" – у трэцяй. Адказы Ястраба – "в" у першай, "б" у другой і "а" ў трэцяй.

Калі, напрыклад, у Вас 11 "галубіных" адказаў, 4 "страўсіных" і ніводнага "ястрабавага", тады зразумела, што Вы бліжэй за ўсё да Голуба, крыху Страўс, але нічога агульнага зь Ястрабам ня маеце. Калі ўсяго пароўну, то ў розных сытуацыях Вы праяўляеце сябе па-рознаму.

Праўда, варта пацікавіцца, што Вы ўзялі ад голуба – дабрыню й мяккасьць ці нерашучасьць? Ад страўса – эмацыянальную ўстойлівасьць ці замкнёнасьць? Ад ястраба – рашучасьць ці агрэсіўнасьць?
Для гэтага ўважліва праглядзіце апісаньне тых трох тыпаў.

## Голуб

Гэта мяккі й пачуццёвы чалавек, схільны хутчэй аддаваць, чымся браць. Галубы маюць патрэбу ў каханьні, ад яго залежыць іхняе шчасьце.

Шмат у чым Галубы слабыя й нерашучыя. Яны гатовыя зрабіць усё для іншых – часьцей за ўсё тое, што жадаюць, каб іншыя зрабілі для іх саміх. Прасіць ці патрабаваць тое, што ім трэба, яны альбо баяцца, альбо ня ўмеюць.

Галубы жывуць марай адшукаць чалавека, які здагадваўся б пра іхнія жаданьні з паўслова. Не сустракаючы такога, яны часта адчуваюць расчараваньне. Увогуле, марам і перажываньням Голуб адводзіць значнае месца.

Галубы найчасьцей граюць другасныя ролі, дапамагаючы іншым узьдымацца наверх, лепей пачуваюцца за тронам, а не на ім. Браць на сябе ініцыятыву й адказнасьць пабойваюцца. Галубы залежаць ад меркаваньняў тых, хто навокал.

## Страўс

"Страўс" – чалавек халодны, мэркантыльны, асьцярожны і заўжды трымае дыстанцыю. Яму патрэбная прастора вакол сябе, а ня хтосьці пад бокам. Калі хто-небудзь падыходзіць да яго занадта блізка, ён альбо адштурхоўвае яго, альбо, найчасьцей, бяжыць сам. Страўс прагне толькі спакою. Каб пазьбегнуць непажаданых кантактаў ці, ня дай Божа, расчараваньня, ён імкнецца "схаваць у пясок" ня толькі сваю галаву, але і сэрца, і талент.

Страўсы пазьбягаюць сувязяў і асабліва іхніх наступстваў. Тыя, хто бярэ зь імі шлюб, ведаюць, што яны могуць быць вельмі халоднымі.

Страўс не чакае ад жыцьця й людзей занадта многага, таму не бывае й дужа расчараваны. Паколькі ён ніколі асабліва ні да чога не імкнецца, ніхто ня можа сказаць, што Страўс пацярпеў фіяска.

Адчужанасьць Страўсаў надае ім цэласнасьці й самадастатковасьці, чаго не хапае як Голубу, што імкнецца падабацца тым, хто наўкола, так і Ястрабу, які прагне посьпеху і таму заўсёды ў дзеяньні. Але гэтая самадастатковасьць (яе другі бок – замкнёнасьць) аддзяляе Страўса ад усяго таго лепшага, што ёсьць у іншых людзях і ў ім самім.

## Ястраб

Як чалавеку пыхліваму, рашучаму і харobраму, Ястрабу патрэбная ўлада. Перасьледуючы свае мэты, Ястрабы набываюць багата ворагаў, але, зь іншага боку, яны шмат чаго й дасягаюць. Іхняя варожасьць і агрэсіўнасьць робяць іх вельмі складанымі спадарожнікамі ў жыцьці, але ў той жа час яны прымушаюць кожнага выцягвацца перад імі ў струнку і выкладацца ў працы. Мы часьцей захапляемся імі, чымся кахаем.

Ястрабы патрабуюць поўнага падпарадкаваньня й аддаласьці. Але зь іншага боку, яны працуюць больш за астатніх і, як правіла, заслугоўваюць такога стаўленьня да сябе.

Ястрабы імкнуцца да дасканаласьці, патрабуюць "усё альбо нічога". І хаця яны лёгка крытыкуюць сябе й іншых, на крытыку збоку рэагуюць хваравіта.

Для Ястрабаў сьвет уяўляецца полем бітвы, дзе яны абкладзеныя ворагамі. Але няма чаго хваляваца: іхняя зброя – розум, яны прыроджаныя стратэгі, і ў іх шмат энэргіі. Адзіная бітва, якую яны прайграюць, – гэта бітва з самім сабой.

***Падрыхтавала Аляксандра Траццяк***




# ЦЯПЕР "CD" МОЖНА ЗАМОВІЦЬ ПРАЗ ПОШТУ!

## Каб падпісацца на "CD", трэба:

- запоўніць абанэмэнт (можна атрымаць у любым паштовым аддзяленьні ці ў рэдакцыі часопісу);
- паштовым пераводам пералічыць адпаведную суму на разьліковы рахунак рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка":

***Разьліковы рахунак: 3012210040010 Сталічнае аддзяленьне АКБ "БелБізнэсБанк", г.Менск, код 112.***

- запоўнены абанэмэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе даслаць па пошце ў рэдакцыю: **Менск-30, 220030, а/с 90, рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка".**
- Са студзеня 2001 году штомесяц вымаць з паштовай скрыні "CD".

## УМОВЫ:

- **Дашлі** запоўнены абанемэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе **да 10-га любога месяца,** і атрымаеш CD ужо **ў наступным месяцы.**
- Падпісацца можна на адзін, тры, шэсьць месяцаў.
- Кошт падпіскі на 1 месяц – 240 рублёў.

# УНІКАЛЬНАЯ ПРАПАНОВА:

- Калі ты падпішасься сам, а таксама падпішаш 5 сваіх сяброў – зьніжка 50% (дзеля гэтага ў адной капэрце трэба даслаць 6 запоўненых абанэмэнтаў і адпаведную квітанцыю). Не забудзься пазначыць сваё імя. Краіна павінна ведаць сваіх герояў.

Цяпер на "CD" можна падпісацца **штомесяц!**

## *АБАНЭМЭНТЫ Й КВІТАНЦЫІ ДАСЫЛАЙЦЕ НА АДРЭСУ:*

Менск 30, 220030, а/с 90, рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка".